# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 18 (2212) 2 мая 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.



Што магло б аб'яднаць народных дэпутатаў — пры ўсіх разыходжаннях у падыходах да вырашэння той ці іншай праблемы! Толькі адно: яснае ўсведамленне, што ўсе мы працуем дзеля нацыянальнага адраджэння Беларусі, дзеля шчасця і дабрабыту яе народа, што гэта наш агульны, усіхні, галоўны і найпершы клопат. Іншай ідэі, іншай асновы для плённай працы на карысць нацыі няма. Гэта пацверджана гісторыяй розных дзяржаў і народаў, пацвярджаецца і сёння — варта адно пацікавіцца "цудам" эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу колісь адсталых краін, нават былых калоній. Галоўны сакрэт іх уздыму і росквіту — нацыянальны энтузіязм, разбуджаная — для працы і творчасці — энергія народнага духу, гарачае жаданне сцвердзіць сябе ў свеце як нацыю, вартую людской павагі, цвёрдае перакананне, што мы — народ таленавіты, працавіты, мужны і мы зробім сваё жыццё такім, каб яно радавала нас. Ну, а мы, беларусы!..

"ПРАНІКНУЦЦА ІДЭЯЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ"

Стар. 3

## ПА МЯСЦІНАХ, ДЗЕ ЖЫЎ І ПРАЦАВАЎ ШЫРМА

"Ёсць моманты, калі голымі развažаннямі не заўсёды можна пераканаць іншых. Тады для дабра ідэі народнага адраджэння і вызвалення неабходна ў авангардзе пусціць паэта, музыку, мастака". Так пісаў больш чым паўстагоддзя назад Рыгор Раманавіч Шырма ў артыкуле "Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі", аналізуючы культурнае жыццё гэтага краю. Нялёгкія тады былі часы для жыхароў Заходняй Беларусі.

Каб не паддацца роспачы і не зламацца духам, трэба было бясконца верыць у свой народ, у яго творчыя сілы і трэба было вельмі добра ведаць гэты народ, ведаць, што ў яго ёсць і на што ён здатны. А перш за ўсё — трэба было зрабіць сваім непахісным перакананнем ісціну, з якой пачыналі ўсе волаты нацыянальна-вызваленчага руху ў любой краіне: толькі народ, які ўсвядоміў сябе як нацыю, усвядоміў сваю гісторыю, веліч сваіх духоўных скарбаў і культурных набыткаў, — толькі такі народ не памрэ ў занядбанні, не сыдзе нязнаным з арэны гісторыі.

Р. Шырма пешкі абышоў амаль усю Заходнюю Беларусь, зрабіў тысячы запісаў музычнага фальклору, чым збярог багаты народна-песенны скарб. Стаў на чале прагрэсіўнай масавай арганізацыі Таварыства беларускай школы.

Нельга пераацаніць зробленае гэтым волатам беларускай культуры. Асабліва ў наш час, калі ідзе пераасэнсаванне многіх каштоўнасцей і ісцін, калі адбываецца вяртанне народа да сваіх каранёў. Неадназначныя працэсы ідуць сёння і ў грамадскім, і ў культурным жыцці Беларусі.

Чытайце ў нумары матэрыял "Каму патрэбна сёння культура, або Правінцыяльныя карцінкі часоў перабудовы", які зроблены пасля камандзіроўкі нашым карэспандэнтам Таццянай АНТОНАВАЙ на радзіму Р. Шырмы — Пружаншчыну.

НА ЗДЫМКАХ: будынак старой школы мастацтваў імя Р. Шырмы ў Пружанах; а так выглядае "закансерваваная" новабудоўля — школа мастацтваў, якая даўно павінна была адчыніць свае дзверы.

Фота С. КРЫЦКАГА.



# ЗВАРОТ

### СЯБРОЎ КЛУБА "СПАДЧЫНА" ДА КІРАЎНІЦТВА І ВЕРНІКАЎ ХРЫСЦІЯНСКІХ КАНФЭСІЯЎ НА БЕЛАРУСІ

Агульнавядома, што жыццё кожнага народа з'яўляецца неацэнным дарам Творцы. Захаванне і прымнажэнне гэтага дару ёсць пачэснай справай кожнага духова свядомага чалавека.

Трагічныя падзеі баларускай гісторыі паставілі наш народ перад пагрозай знікнення яго духовай існасці. І гэтае становішча выклікана перш за ўсё прычынамі палітычнымі, справамі і дзеяннямі людзей.

Але ж ці не відавочна тое, што справы людскія не заўсёды пажаданыя Госпаду? Ці хоча Ён заняпаду таго, што дадзена чалавеку дзеля супольнага жыцця з другімі людзьмі, менавіта: нацыянальнай культуры, мовы і лучнасці праз усведамленне агульнага лёсу народа?

Адной з найбольш кідкіх прыкмет трагічнасці нашага становішча з'яўляецца занядбанне беларускай мовы і ў першую чаргу вынішчэнне яе ўжытку ў храмах, роля якіх заўсёды была пасрэдніцкай паміж чалавекам, нацыяй і Богам. Аналізуючы сённяшні стан беларускай душы, не можам не выказаць сваю заклапочанасць тым, што ў хрысціянскіх храмах Беларусі, за рэдкім выключэннем, беларускаму слову няма месца. У храме ці ў касцёле свядомыя беларусы-хрысціяне пачуваюцца падчас не як у сваім уласным доме.

Звяртаемся да ўсіх служыцеляў Бога з заклікам аб увядзенні беларускіх царкоўных спеваў, беларускай мовы ў адпраўленні набажэнстваў, казанні і адпаведна ў канфэсійную выдавецкую справу. У мэтах адраджэння супольнай нацыянальнай свядомасці просім кіраўнікоў усіх канфэсіяў аб увядзенні выканання беларускага рэлігійнага гімну "Магутны Божа"... (словы Н. Арсеньевай, музыка М. Равенскага).

У гэты трывожны час падзелаў і раз'яднанняў арыентацыя на трывалую глебу агульнанацыянальных інтарэсаў, на адзіную і непадзельную душу беларускага народа зможа пазбавіць нас у будучыні ад непатрэбных міжканфэсійных супярэчанняў і забурэнняў. І хай святлом хрысціянскіх каштоўнасцей асвеціцца і мацуецца душа кожнага беларуса.

З пажаданнем поспехаў у працы на Божай ніве сябры клуба "СПАДЧЫНА".

*ВАНДЭЯ ЎЗБУНТАВАЛАСЯ*





**Некалі з лёгкай рукі пісьменніка Алеся Адамовіча Беларусь ахрысцілі не надта годнай мянушкай — "антыперабудовачная Вандэя". У краіне ўсё кіпела і бунтавала, звяргаліся старыя аўтарытэты і ўздымаліся з невядомасці новыя, а ў нас усё было спакойна і адносна стабільна. Але ёсць у жыцці тая кропля, якая перапаўняе чашу цярпення. Такой кропляй для ціхіх, разважлівых і цярплівых беларусаў стала дзяржаўная рэформа цэн, якая 2 красавіка зрабіла абсалютную большасць працоўнага люду жабракамі. З трэцяга красавіка, калі пачаліся першыя рабочыя забастоўкі ў Мінску, Беларусь не ведае спакою.**

**Цяпер Мінск не сыходзіць са старонак сусветнай прэсы, за падзеямі ў Беларусі сочаць усе. Вандэя бунтуе і, бадай што, гэтым стала вядомай у свеце нават тым, хто дасюль не ведаў, дзе тая Беларусь.**

**Сваімі выступленнямі рабочыя дамагліся, што іх эканамічныя патрабаванні былі задаволены: урад рэспублікі зрабіў, што мог. Але на гэтым стыхія не ўлеглася — стачком выводзіць людзей на вуліцы, каб Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, перагаворы з якім зайшлі ў тупік, выканаў і палітычныя патрабаванні: скліканне нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі і прыняцце на ёй у першую чаргу законаў аб дэпартызацыі і дэпалітызацыі дзяржаўных органаў, аб прыватызацыі, прыватнай уласнасці на зямлю.**

**Стачком ставіць ультыматум за ультыматумам, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета, натуральна, не можа паддавацца сілавому ціску. Патрэбен разумны кампраміс, які прывёў бы да згоды.**

**А пакуль Мінск кіпіць. Мітынгі з палітычнымі патрабаваннямі адбываліся на плошчы Леніна ў Мінску 23, 24, 25 красавіка... І не толькі ў Мінску. Хваля супрацьстаяння дасягае ўскраін Беларусі.**

**24 і 25 красавіка тысячы рабочых аршанскіх заводаў блакіравалі рух праз станцыю Орша, патрабуючы склікання нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Было затрымана многа пасажырскіх і грузавых цягнікоў.**

**Але вышэйшыя ўлады рэспублікі непахісныя на сваёй пазіцыі. Па рашэнню стачкома забастоўка прыпынена. Людзі выйшлі на работу. Аднак іскры гневу не пагаслі. Супрацьстаянне працягваецца. Народ у трывозе: чым гэта ўсё скончыцца?..**

*НОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*

## СКАРЫНІЧЫ

**У 190-й мінскай сярэдняй школе створана новая дзіцячая арганізацыя, альтэрнатыўная піянерскай. Нядаўна тут адбылося пасвячэнне ў... скарынічы.**

**Назва гаворыць сама за сябе — дзеці выступаюць паслядоўнікамі беларускага асветніка і першадрукара Францыска Скарыны і галоўнай сваёй задачай ставяць адраджэнне нацыянальнай культуры. Гэта, праўда, праграма-максімум, праграма-мінімум пакуль што простая — навучыцца добра гаварыць і пісаць на роднай мове, бо скарынічы вучацца толькі ў другім класе.**

**Ініцыятарамі стварэння новай арганізацыі выступілі не самі малыя, а іх бацькі. Пакуль яны адзіныя ў Беларусі скарынічы, але важны першы крок і добры прыклад.**

*МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КАНФЛІКТЫ*

## ЧЫЙ ГОЛАС?

**У кіёсках горада над Бугам з'явілася ў продажы новая газета "Голас Берасцейшчыны" — выданне Украінскага грамадска-культурнага аб'яднання вобласці. Газета тыражом 900 экземпляраў надрукавана ў Львове. У будучыні на яе базе члены аб'яднання, створанага 18 лютага 1990 года, мяркуюць выдаваць часопіс.**

**У "Звароце да насельніцтва Берасцейшчыны" сцвярджаецца, што ў 1939 годзе сталінскі рэжым насуперак даўно ўсталяванаму этнаграфічнаму саставу насельніцтва "добраахвотна-прымусова" назваў тутэйшых палешукоў беларусамі і далучыў іх да Беларусі. А хто не пагаджаўся з гэтым, падвяргаўся рэпрэсіям.**

**Грамадска-культурнае аб'яднанне заклікае дабівацца ад органаў улады канстытуцыйным шляхам "надаць народу Берасцейшчыны" статут украінскай нацыянальнай меншасці ў складзе БССР.**

*"Скажу шчыра: я спачатку быў з тымі, хто мітынгаваў на плошчы. Але чым больш разважаў над прыродай канфлікту, тым больш пераконваўся, што незадаволенасць працоўных бязглуздым павышэннем цэн, якое імгненна паставіла на мяжу выжывання сотні тысяч людзей, спрытна выкарысталі дэструктыўныя сілы.*

*У нас праявіліся, у асноўным, дзве. Першая — народныя дэпутаты, якія ў парламенце ў меншасці. Гэта не самае страшнае, паколькі меркаванне меншасці вельмі часта бывае правільным. Але яны не хочуць і не ўмеюць працаваць парламенцкімі метадамі, таму часта, шчыра кажучы, гэта цяжка. Трэба рыхтаваць заканадаўчыя ініцыятывы, трэба карпець у камісіі, вывучаць асновы тэорыі і права. Навошта? Прасцей раіць, вучыць усіх, як трэба жыць. У тым ліку і на плошчы.*

*Яшчэ больш ажывіліся тыя, хто хацеў быць выбраным у Вярхоўны Савет, але аказаўся за бортам. Цяпер яны ўбачылі магчымасць для рэваншу. Гэтыя людзі, мяркуючы па ўсім, навучаны і тым, што ў рэспубліцы па выніках першага кварталу намеціліся шляхі стабілізацыі эканомікі. Мы пачалі падымацца з каленаў. Урад звёў канцы з канцамі па бюджэту, гэта каласальнае дасягненне ў такіх цяжкіх умовах. І кампенсацыя цэнавай рэформы цяпер набліжаецца да належнай. На гэтым фоне, паўтараю, можа здацца непрывабнай пазіцыя другіх сіл. Вось і вырашылі нам перашкодзіць, а народ падштурхнуць да яшчэ большай бездані. Менавіта таму ўлада не павінна панікаваць і страчваць разважлівасць".*

*(З інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА першага намесніка Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Станіслава ШУШКЕВІЧА).*

*ЗМЯНІЎСЯ СТАТУС*

## ПОЛІТЭХНІЧНАЯ АКАДЭМІЯ

**Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія — так цяпер будзе называцца Беларускі політэхнічны інстытут. Пастанова Савета Міністраў рэспублікі, якая змяніла статус вучэбнага цэнтра, з'явілася якраз да юбілею — 19 красавіка інстытуту споўнілася 70 гадоў. З гэтай нагоды адбылося расшыранае пасяджэнне вучонага савета і ўрачысты вечар.**

*ЗДАРЭННЕ*

## АВАРЫЯ ЛЯ СЭРВЕЧЫ

**18 красавіка ў Мядзельскім раёне, непадалёк ад ракі Сэрвеч, здарылася буйная і небяспечная аварыя нафтаправода. Па словах спецыялістаў, аварыі такога маштабу яшчэ не было ў Беларусі. Па папярэдніх даных, на паверхню вылілася каля 4 тысяч кубічных метраў нафтапрадуктаў. Небяспечная салярка хутка запоўніла меліярацыйныя каналы, трапіла ў раку Сэрвеч. Навісла пагроза атручвання Вілейскага вадасховішча, з якога забяспечваецца вадой Мінск.**

**Немалымі намаганнямі штаба грамадзянскай абароны, воінаў Беларускай ваеннай акругі, спецыялістаў Прыбалтыйскага раённага аб'яднання магістральных прадуктаправодаў, работнікаў мясцовых арганізацый ачаг забруджвання лакалізаваны. Нафтапрадукты не трапілі ў вадасховішча, пітная вада не атручана. Але пазбегнуць экалагічнай бяды не ўдасца — пацерпіць навакольная мясцовасць: зямля і многае жывое на ёй.**

**Прычыны аварыі — зноў жа наша нядбайнасць. Летась на гэтым участку каля вёскі Крывічы пракладвалі кабель і тэхнікай пашкодзілі нафтаправод. А ў той злашчасны дзень, калі трубу разарвала, ціск у ёй у два разы перавышаў нармальны.**

*ПАМЯЦЬ НАШЧАДКАЎ*

## СТВАРАЛЬНІКУ САДУ

**Сёлета спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння Жана-Эмануэля Жылібера, доктара медыцыны. У 1775 годзе ён заснаваў Гродзенскую медыцынскую акадэмію, а таксама батанічны сад. Гродзенскі сад нароўні з Лонданскім і Пецярбургскім лічыўся ў той час лепшым батанічным садам Еўропы. Такім чынам, імя гэтага чалавека шмат значыць у гісторыі горада над Нёманам.**

**З нагоды юбілею вучонага ў былым батанічным садзе, а цяпер гарадскім парку, вырашана ўстанавіць помнік-бюст Ж.-Э. Жыліберу — нашаму славутаму земляку.**

*ЗНАК ЧАСУ*

## ВЕРНУТЫЯ РЭЛІКВІІ

**Немагчыма расказаць, колькі бяссонных начэй, засад, следчых дзеянняў запатрабавала ад работнікаў КДБ, міліцыі адшуканне ўсяго гэтага багацця.**

**Міністр унутраных спраў БССР Уладзімір Ягораў перадаў вялікую партыю выратаваных скарбаў мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму, патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі Філарэту. На гэты раз былі вернуты рэліквіі, канфіскаваныя ў ходзе следства толькі па адной крымінальнай справе. Пры спробе перавезці праз граніцу ўдалося затрымаць каштоўнасці, выкрадзеныя ў розны час з прыходаў праваслаўных цэркваў Беларусі. Гэта іконы і царкоўным кнігі XVIII стагоддзя, прадметы культу.**

**Яго высокапраасвяшчэнства сардэчна падзякаваў работнікам беларускай міліцыі.**

**— Гэты жэст, — сказаў ён, — мы вітаем як знак часу, тых перамен, якія адбываюцца ў нашым грамадстве. На працягу многіх гадоў мы маем кантакты з праваахоўнымі органамі. Бо кожны раз, калі ўчыняюцца крадзяжы ў прыходах, мы звяртаемся да вас, і вашы намаганні ўвенчваюцца поспехам. Нам вернута ікона "Всех скорбящих радостей". Па рашэнню сінода Беларускай праваслаўнай царквы 26 красавіка ў памяць аб Чарнобылі ў Мінску закладзены храм-помнік. І менавіта гэты выратаваны вамі абраз мы прынясём на асвячэнне месца закладкі храма.**

*ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ*



**З 22 па 26 красавіка ў Беларусі прайшоў Тыдзень памяці чарнобыльскай катастрофы. Так была адзначана 5-я гадавіна нашай нацыянальнай трагедыі. Адбылося многа розных мерапрыемстваў, у тым ліку і гэта — выстаўка "Дзеці — дзецям", што адкрылася ў Мінску. І хаця прадстаўленыя на ёй работы, на першы погляд, нібыта не звязаны з гэтай трагедыяй, сувязь усё-такі самая непасрэдная. Усе экспануемыя малюнкі прысвечаны адной тэме: адлюстраванню дома, у якім бы хлопчыкі і дзяўчынкі адчувалі сябе шчаслівымі. Такі дом, а больш правільна — цэлую дзіцячую вёску, па праектах, народжаных фантазіяй дзяцей розных краін свету, мяркуецца пабудаваць у калгасе "Новы свет" Мінскай вобласці. Жыць у ёй будуць сіроты з раёнаў, пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС.**

**Ідэя стварэння гэтага сімвала салідарнасці дзяцей і моладзі ўсяго свету належыць мінска-берлінскай ініцыятыўнай групе "Рэканструктывізм-КАЯ" і дабрачыннаму цэнтру "Водгук". Акцыя "Дзеці — дзецям" заклікана прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да праблемы перасялення дзяцей з заражанай зоны. Усім жа, хто гатовы дапамагчы ў рэалізацыі задуманага, можна зрабіць свой узнос на разліковы рахунак 700 358 МФО 400 019 Белжылсацбанка Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: афішу з запрашэннем на выстаўку расклейваюць вучаніцы мінскай сярэдняй школы № 26 Анастасія БЫНЯНКОВА (злева) і Марыя ДУДАРАВА. Вучні гэтай школы першымі падтрымалі ініцыятыву.**

З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# ПРАНІКНУЦЦА ІДЭЯЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

**Гутарку народнага дэпутата БССР Ніла ГІЛЕВІЧА з журналістам "Народнай газеты" Іванам ГАРНАЎЦОМ "Пара, нарэшце, ачнуцца і расправіць спіну, і падняць галаву належна...", на нашу думку, павінен прачытаць кожны беларус, і тутэйшы, і замежны. Прынамсі, разважанні вядомага пісьменніка адпавядаюць нашым поглядам на многія праблемы таго, што называюць перабудовай. Таму прапаноўваем гутарку нашым чытачам. Матэрыял друкуецца з некаторымі скарачэннямі.**

*— Ніл Сямёнавіч, давядзецца пачаць з палітыкі: многія людзі незадаволены работай Вярхоўнага Савета, зменшыўся давер да яго. Што, на вашу думку, перашкаджае вышэйшаму органу ўлады ў рэспубліцы больш плённа працаваць?*

— Перш за ўсё — адсутнасць паразумення і згоды паміж рознымі палітычнымі плынямі ў нашым дэпутацкім корпусе, узаемнае непрыманне пазіцый, поглядаў, думак. Занадта шмат у зале спрэчак, запальчывых выступленняў, абвінавачванняў і водпаведзяў, што выбаршчыкамі ўспрымаецца агулам адмоўна. Што магло б аб'яднаць народных дэпутатаў — пры ўсіх разыходжаннях у падыходах да вырашэння той ці іншай праблемы? Толькі адно: яснае ўсведамленне, што ўсе мы працуем дзеля нацыянальнага адраджэння Беларусі, дзеля шчасця і дабрабыту яе народа, што гэта наш агульны, усіхні, галоўны і найпершы клопат. Іншай ідэі, іншай асновы для пленнай працы на карысць нацыі няма. Гэта пацверджана гісторыяй розных дзяржаў і народаў, пацвярджаецца і сёння — варта адно пацікавіцца "цудам" эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу колісь адсталых краін, нават былых калоній. Галоўны сакрэт іх уздыму і росквіту — нацыянальны энтузіязм, разбуджаная — для працы і творчасці — энергія народнага духу, гарачае жаданне сцвердзіць сябе ў свеце як нацыю, вартую людской павагі, цвёрдае перакананне, што мы — народ таленавіты, працавіты, мужны, і мы зробім сваё жыццё такім, каб яно радавала нас. Ну, а мы, беларусы? Не чуючыся сапраўднымі гаспадарамі на сваёй роднай зямлі, не развіўшы ў сабе як належыць пачуццё нацыянальнага адзінства, мы хочам перайначыць свой лёс, дасягнуць станоўчых перамен і поспехаў? Дарэмныя спадзяванні, дарэмныя!

Што ж адбываецца ў нашай дэпутацкай зале? Мы не слухаем, што гаворыцца, а глядзім, хто гаворыць. Няхай і разумнае, слушнае кажа прамоўца, але раз ён "не наш" — галасуем супраць. Так плёну ў працы не будзе. Трэба ўсім пранікнуцца вялікай ідэяй нацыянальнага адраджэння і на яе грунце весці пошукі шляхоў і спосабу вырашэння канкрэтных жыццёвых праблем, а менавіта: як нам выйсці з эканамічнага і палітычнага крызісу, як наладзіць разумныя, дружалюбныя і ўзаемавыгадныя адносіны з рэспублікамі і інш.

*— Успамінаю 60—70-я гады, калі вы былі адным з нямногіх заступнікаў адраджэння беларускай мовы, культуры свайго народа. І вось прыйшла перабудова. Стала як быццам лягчэй дыхаць. У многіх рэспубліках дзеячы культуры, пісьменнікі ўзначалілі рухі, новыя палітычныя партыі. Як мне вядома, у Беларусі з імем Гілевіча многія звязвалі надзеі, што калі б у нас вы ўзначалілі дэмакратычныя сілы на перабудову, то за вамі пайшоў бы ўвесь народ.*

— Народ? Ды яшчэ і ўвесь?.. Хай бы мы трохі асцярожней карысталіся такімі вялікімі словамі. Паспрабуйце ўявіць сённяшняе насельніцтва Беларусі. Хіба яно аб'яднана той ідэяй, аб якой я толькі што гаварыў, і хіба яно гатова за гэтай ідэяй пайсці? Народам з ідэяй мы станем тады, калі гэтак жа, як сёння, — толькі не ў рабочы час! — людзі запоўняць усю плошчу перад Домам урада, і на ўсіх лозунгах над галовамі будзе значыцца адно і тое ж: "Вярніце нам нашу родную беларускую мову!", і ўсе да аднаго прамоўцы будуць у адзін голас патрабаваць: "Урад! Забяспечце нашых дзяцей беларускай школай!", і ніхто пры гэтым не засвішча ў натоўпе, не закрычыць "Далоў!"... На вялікі жаль, нам яшчэ далёка да гэтага. Яшчэ патрэбны доўгія гады адпаведнай выхаваўчай працы. Тым больш, што сёння ў нашым і без таго растурзаным грамадстве ўзмацняюцца тэндэнцыі сацыяльнага, палітычнага і нацыянальна - этнічнага расслаення. Слабасць гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў пачалі заўзята і падступна выкарыстоўваць агенты, так бы мовіць, "суседскага" шавінізму з усіх бакоў — у надзеі на будучую перакройку граніц нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Ужо вядуць апантаную апрацоўку жывых душ. А нашы палітыкі, афіцыйныя ідэолагі на гэта ніяк не рэагуюць і ўсё яшчэ змагаюцца з беларускім нацыяналізмам.

*— А як вы ставіцеся да тых, хто на нацыянальнай ідэі ў апошні час зрабіў імя?*

— Служэнне нацыянальнай ідэі — не спорт, дзе можна, зусім не маючы вядомасці, раптам паставіць рэкорд і "зрабіць імя". Хаця і ў спорце не так хутка і нечакана гэта адбываецца. Я паважаю і цаню ва ўсякай сферы дзейнасці тое імя, якое здабыта доўгімі гадамі мэтанакіраванай, самаахвярнай, нястомнай працы, здабыта талентам, пакутамі і мазалём.

*— Вы і некаторыя іншыя народныя дэпутаты з болем і заклапочанасцю гаварылі на трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета. Размова ідзе пра Закон Беларускай ССР аб мовах у Беларусі. Вы і вашы паплечнікі рыхтавалі яго, прымалі, цяпер змагаецеся за яго ажыццяўленне. З чым жа звязаны такія цяжкасці?*

— Пачну з відавочнага факта, які немагчыма ўспрыняць інакш, як недарэчны парадокс: пасля ўступлення ў сілу Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы рэзка пагоршылася становішча беларускамоўнай прэсы, газет і часопісаў. Мала таго, што пачалі выдавацца дзесяткі новых газет на рускай мове, у моры якіх патанаюць нешматлікія беларускія выданні, ды і многія з тых газет, што выходзілі дзесяткі гадоў па-беларуску, сталі з новага года двухмоўнымі. А беларускі часопіс "Служба быту" перайменавалі ў "Салон" і перавялі на рускую мову. А ў рэспубліканскай газеце "7 дней" закрылі беларускія старонкі. А беларускамоўны варыянт "Вячэрняга Мінска" пачаў выходзіць толькі два разы на тыдзень (замест пяці, як выходзіць рускі). Падобныя прыклады можна доўжыць і доўжыць. З чыёй жа ласкі ўсё гэта робіцца? І дзеля якое мэты? Каму можа быць выгадна, каб гінулі мова і культура вялікага славянскага народа?

Звяртаюся ў думках да паважаных людзей — гаспадарнікаў, палітыкаў і проста грамадзян. Шаноўныя! Вы дбаеце пра эканамічную самастойнасць Беларусі, пра набыццё ёю дзяржаўнага суверэнітэту? І хочаце дасягнуць гэтага, не маючы самастойнасці духоўнай? Належачы іншаму — небеларускаму — духоўнаму свету? Будучы адарванымі ад нацыянальных традыцый і звычаяў? Зліквідаваўшы ў сваім штодзённым побыце ўсё, што вызначае яго самабытнае нацыянальнае аблічча?

Адзіна верны шлях да самастойнасці — гэта адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, вяртанне да вытокаў нацыянальнай духоўнасці, да роднай мовы. Асабліва вялікая роля належыць менавіта мове. У нас у большасці на мову глядзяць як на сродак зносін — і толькі, абмяжоўваюцца яе камунікатыўнай функцыяй. А мова — гэта нешта непараўнана большае: у ёй — гісторыя краю, нацыянальная псіхіка, самапачуванне народа, яго годнасць, у ёй — і наша дзяржаўнасць... Пачытайце адну з найвялікшых і наймудрых кніг у гісторыі еўрапейскага Рэнесанса — Статут Вялікага княства Літоўскага, — напісаную на нашай зямлі, нашымі мудрацамі і для нашага народа, для нашай дзяржавы. І напісаную нашай мовай! Пачытайце, паслухайце, як яна гучыць — наша мова XVI стагоддзя! Хіба ў ёй — толькі карысная інфармацыя, а не жыццё, не душа, не гісторыя і лёс народа?!

Адкуль у нас, беларусаў, пачварны нацыянальны нігілізм — зразумела: надта даўно былі гаспадарамі на сваёй зямлі, за стагоддзі прыгнёту гаспадарскі дух свабоды і незалежнасці быў з нас досыць такі грунтоўна выбіты.

Што нам трэба рабіць, каб наша мова загучала паўсюдна? Маё перакананне — трэба спакойна, дзелавіта, з пачуццём дзяржаўнай адказнасці ажыццяўляць рэспубліканскі Закон аб мовах.

ТЭЛЕФОН У СЕЛЬСКІМ ДОМЕ



Тэлефон — не раскоша, а неабходнасць. Вось чаму так удзячны сувязістам, якія змаглі падвесці да яго дома падземны кабель, жыхар пасёлка Ратамка, што ў Мінскім раёне, інвалід Вялікай Айчыннай вайны Міхаіл Бараноўскі. Перасяліўся ён у гэтыя мясціны з пацярпеўшага ад чарнобыльскай аварыі Быхаўскага раёна. Штогод Мінскім раённым вузлом сувязі ўстанаўліваецца на вёсцы ў сярэднім паўтары тысячы новых тэлефонаў, у большасці — кватэрныя. У раёне дзейнічаюць 54 сельскія аўтаматызаваныя тэлефонныя станцыі.

НА ЗДЫМКАХ: у лінейна-апаратнай зале Мінскага раённага вузла сувязі. Абслугоўваюць тэхніку інжынеры Ніна ШКАРУБА і Валерый ДЗМІТРЫЕЎ;



"ёсць сувязь", — радуецца Міхаіл БАРАНОЎСКІ.

Фота І. ЮДАША

ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

## НОВЫЯ ДАНЫЯ ПРА КАТЫНСКУЮ ТРАГЕДЫЮ

У выдавецтве Інфармацыйнага агенцтва "Навіны" выйшла кніга Уладзіміра Абарынава "Катынскі лабірынт". Назва гаворыць сама за сябе: па вастрыні і значнасці катынская трагедыя параўнальная хіба што з вынікамі сакрэтных савецка-германскіх пратаколаў 1939 года. Амаль паўвека катынскі сіндром атручваў нармальныя адносіны паміж Савецкім Саюзам і Польшчай.

Кніга Абарынава, бадай, першая буйная работа ў СССР на гэтую тэму. Прызначаная для шырокага кола чытачоў, яна змяшчае вялікую колькасць дакументальных архіўных матэрыялаў і фатаграфій. Аўтар, спецыяльны карэспандэнт "Литературной газеты", правёў сур'ёзнае незалежнае журналісцкае расследаванне "катынскай справы", выявіўшы вялікую колькасць новых падрабязнасцей.

У кнізе падрабязна разглядаецца гісторыя не толькі Катынскага, але і Казельскага, Юхноўскага, Асташкаўскага і Старабельскага лагераў НКУС, у якіх таксама ўтрымліваліся палякі. Аказваецца, напрыклад, што Казельскі лагер працягваў існаваць да ліпеня 1941 года, але гэта быў ужо, калі так можна сказаць, Казельск-2: у ім размясцілі палякаў, інтэрнаваных у Літве і ў Латвіі ў 1940 годзе.

Працуючы ў архівах, У. Абарынаў, у прыватнасці, устанавіў і тое, што некаторыя афіцэры, якія праходзілі па складзенаму Адамам Машчыньскім спісу катынскіх ахвяр, былі альбо забіты на некалькі месяцаў пазней, альбо... Ва ўсякім разе, людзі, якія лічыліся расстралянымі, праз некалькі месяцаў і нават праз год, аказваецца,.. перавозіліся з лагера ў лагер, адпраўляліся ў Маскву, у Мінск, у Смаленск (у кнізе прыводзяцца канкрэтныя факты, прозвішчы і даты). Высвятленне іх лёсу, безумоўна, павінна скласці прадмет спецыяльнага даследавання.

У адносінах вязняў Асташкаўскага лагера аўтар прыводзіць новую — у адрозненне ад версіі затаплення на баржы ў Белым моры — і вельмі пераканаўчую гіпотэзу, згодна з якой палякі былі расстраляны і пахаваны каля вёскі Меднае Цвярской (былой Калінінскай) вобласці.

## АН БССР ДАСЛЕДУЕ МІНУЛАЕ І СУЧАСНАЕ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

# ДЗЕЛЯ ГІСТАРЫЧНАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Званы перабудовы, паклікаўшы грамадства да аднаўленчага руху, абуджаюць гістарычную памяць народа. Ці многа мы ведалі пра беларускую эміграцыю, пра яе гісторыю і сучаснае становішча? Амаль што нічога. З нашай памяці імкнуліся сцерці ўсё, што датычыцца яе. Асабліва, калі гаварылася пра эміграцыю, якая захавала свой нацыянальны каларыт.

Але настаў час, і разам з іншымі "белымі плямамі" знікае і гэта. Сапраўднай цалінай паўстае разнастайная праблематыка беларускай эміграцыі перад нашымі гісторыкамі, якія ўзяліся яе ўзорваць.

У размове са мной дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт АН Міхаіл КАСЦЮК засярodзіў увагу на тым, што ўзнікненнем гэтага накірунку — гісторыя беларускай эміграцыі — мы абавязаны самому жыццю, дэмакратызацыі яго, плюралізму думак. Да таго ж нельга поўнасцю ўявіць гісторыю беларускай нацыі без вывучэння той яе часткі, якая па тых ці іншых прычынах аказалася за межамі рэспублікі. Практычную ж дзейнасць па рэалізацыі тэмы ажыццяўляе аддзел гісторыі замежных сувязей Беларусі пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук Галіны СЯРГЕЕВАЙ.

Туды я і накіраваўся. Сэнс маіх першых пытанняў, адрасаваных Галіне Гаўрылаўне, можна звесці да наступнага: канцэптуальныя, структурныя "калькуляцыі" ў распрацоўцы тэмы, забеспячэнне работы навуковым патэнцыялам і адсюль — замежнае яго напаўненне, сувязі.

— Пачну з таго, што доўгі час гісторыя беларускай эміграцыі была ў ліку "закрытых" тэм, за выключэннем можа дасавецкага яе перыяду. Глыбока ж даследаваць пазнейшы было непажаданым, як і прытрымлівацца аб'ектыўнага пункту гледжання, калі ён не ўкладваўся ў панаваўшыя ідэалагічныя пастулаты. Цяпер змены ў адносінах да эміграцыі ёсць. Як на афіцыйным, так і грамадскім узроўнях. А працэсы нацыянальнага адраджэння, якія ажывіліся ў апошнія гады, выявілі вялікую цікавасць да суродзічаў замежжа.

Наш аўтарскі калектыў ставіць мэтай весці аповяд аб эміграцыі, яе прычынах, колькасным і сацыяльным складзе, эканамічным становішчы ў рэчышчы генезісу і беларускай нацыі, і краін, стаўшых для беларускіх замежных супляменнікаў прыёмнай радзімай. Мы маем намер вывучаць перш за ўсё міжнародную міграцыю беларускага насельніцтва менавіта з тэрыторыі Беларусі. (Трэба памятаць, что беларусы эмігрыравалі не толькі з родных зямель, але ў апошнія два стагоддзі і з іншых рэгіёнаў Расіі. Ёсць статыстыка, якая сведчыць, што ў 1896—1912 гадах у Сібір перасялілася больш за 700 тысяч чалавек). І сёння кожны пяты беларус у краіне жыве за межамі БССР.

Першыя зробленыя намі падыходы да вывучэння гісторыі беларускай эміграцыі сведчаць аб неабходнасці аб'ектыўнага яе пераасэнсавання на падставе новых крыніц, адмовы ад звыклых штампаў, неаргументаваных абвінавачванняў эмігрантаў у фальсіфікацыі жыцця на Бацькаўшчыне, ды і яе гісторыі. Мы імкнёмся кіравацца ўласным разуменнем працэсаў, якое будзе грунтавацца на ўсёй даступнай нам сукупнасці фактаў і дакументаў, крытычна аналізаваць зробленае папярэднікамі, выкладаць гістарычныя даныя без аглядкі: падабаецца гэта ці не той ці іншай палітычнай плыні, установе, асобным колам грамадства.

Мяркуем таксама падрыхтаваць навуковы нарыс, які ахопліваў бы і самую раннюю стадыю перасялення за мяжу, і пачатак масавага, г. зн. з канца XIX стагоддзя, і выезды ў даваенныя и пасляваенныя часы.

Плануем апублікаваць навукова-папулярны зборнік "За межамі Бацькаўшчыны". Хацелася б расказаць аб набытках эміграцыі ў галіне беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, пра няпросты, а часам і драматычны лёс тых, хто жыве "ля чужых берагоў", складанасці іхняга прыстасавання да чужой мовы, традыцый. А яшчэ і тое, што бацькоўскі кут быў не вельмі ласкавы да іх...

Наконт выканаўчага патэнцыялу... Даследаванні, аб якіх ідзе гаворка, — комплексныя, шматпланавыя, на сумежжы многіх навуковых дысцыплін. І весціся яны павінны, акрамя вучоных нашага аддзела, і дэмографамі, і этнографамі, і філолагамі, і эканамістамі. Выявілася цікавасць і многіх іншых даследчыкаў гэтай праблемы. Напрыклад, міністр замежных спраў БССР, кандыдат гістарычных навук Пётр Краўчанка выказаў жаданне ўдзельнічаць у асвятленні пытанняў, звязаных з палітычнай эміграцыяй.

Аб сувязях. Безумоўна, мы цесна ўзаемадзейнічаем і з інстытутамі АН БССР, перш за ўсё са створаным нядаўна нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны, са шматлікімі грамадскімі арганізацыямі. Поспех у значнай ступені будзе залежаць гэтаксама ад актыўнасці нашых замежных кантактаў. Наладзілі мы іх з беларусамі Польшчы, з БГКТ. Яго старшыня Алесь Баршчэўскі выступіць са сваім сюжэтам у памянёным зборніку. Пры пасрэдніцтве БГКТ запланавана камандзіроўка двух спецыялістаў аддзела ў Польшчу з мэтай збору матэрыялаў па раздзелу "Беларусы Польшчы". Разлічваем на фонды бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане і дапамогу яе кіраўніка апостальскага візітатара айца А. Надсона. Маецца дамоўленасць з англійскім беларусазнаўцам Джэймсам Дзінглі аб выкарыстанні матэрыялаў даведніка па беларускай эміграцыі, які ён складае разам з беластоцкім вучоным Янам Чыквіным. Ускладаем надзеі на міжнародны кангрэс беларусістаў, які мае адбыцца сёлета ў маі, падчас якога наш аддзел прапанаваў правесці "круглы стол" па пытаннях беларускай дыяспары. Прапанова прынята.

...Гаворачы аб той эміграцыі, галоўным імператывам каторай з'явілася другая сусветная вайна, наўрад ці можна абмінуць, а сустрэўшы — не паспрабаваць разабрацца ў шматлікіх падводных цячэннях, якія тут прысутнічаюць. У безлічы вялікіх і малых пытанняў, няроўных адносінах да гэтай эміграцыйнай хвалі, якія выяўляюцца сёння сярод нас у форме супрацьстаяння, непрымірымасці. Генеалогія гэтага супрацьстаяння здаецца зразумелай: надта жорсткія выпрабаванні выпалі на долю беларускага народа ў часы сталінскага абсалютызму, гітлераўскага нашэсця і г. д. Я пацікавіўся ў субяседніцы яе бачаннем гэтага стану рэчаў як вучонага. Адказ быў такі:

— Я той думкі, што большасць эмігрантаў была ахвярай свайго часу: белага і чырвонага тэрору ў гады грамадзянскай вайны, палітыкі каманднa-адміністрацыйнай сістэмы (хібаў калектывізацыі, пры вырашэнні нацыянальных пытанняў, злачынных рэпрэсій 30-х — пачатку 50-х гадоў і г. д.).

Некалькі слоў аб вельмі-вельмі няпростай праблематыцы "ваеннай" эміграцыі. Супрацьстаянне, кажаце... Лічу, што адны свядома не хочуць чуць ці праўдзіва выкладаць абставіны жыцця беларусаў на эміграцыі, а другія, не маючы поўнай інфармацыі, уведзеныя ў зман, па звыклай схеме кідаюцца выкрываць, на іх погляд, хлусню. Доўгія гады ідэалагічнай апрацоўкі, дэнацыяналізацыі зрабілі сваю справу: не ўсе гатовы ўспрыняць і асэнсаваць праўду. Да таго ж "ваенная" эміграцыя разглядалася да апошняга моманту, як і ўсё іншае, аднабакова. Яе прычыны, матывы падаваліся без аб'ектыўнага паказу канкрэтных грамадска-палітычных, сацыяльна-эканамічных працэсаў, культурнай і нацыянальнай палітыкі. А як паўплывалі на свядомасць тых, хто жыў у вайну, парушэнне правоў чалавека ў краіне, знішчэнне ў ходзе масавых рэпрэсій 30-х гадоў інтэлекту нацыі? Чакае свайго шчырага і сумленнага даследчыка і праблема калабарацыянізму. Нельга адмаўляць той факт, што памылкі ў нацыянальнай палітыцы партыі бальшавікоў, Савецкага ўрада прывялі да таго, што некаторыя свядомыя беларусы пачалі шукаць выйсце на шляхах супрацоўніцтва з гітлераўскім рэжымам, песцячы надзею на адраджэнне беларускай нацыі. А эмігранты з ліку ваеннапалонных? Як вядома, Савецкі Саюз не далучыўся да Жэнеўскай канвенцыі, тым самым кінуўшы сваіх грамадзян на волю лёсу, без прававой абароны. А хто трапіў у палон (часта паранены, непрытомны), аб'яўляўся здраднікам. Шмат беларускай моладзі, прымусова вывезенай гітлераўцамі, не вярнулася, або шукаючы лепшага жыцця, або не спадзеючыся на гуманныя адносіны да сябе, памятаючы аб атмасферы страху ў перадваенныя часіны.

Таму ў дачыненні да "ваеннай" эміграцыі па кожнай канкрэтнай з'яве, асобе трэба выкладаць матэрыялы з улікам усіх абставін, супастаўляць розныя пункты гледжання, крытычна ставіцца да архіўных матэрыялаў, беручы пад увагу і тое, што існуюць сфальсіфікаваныя дакументы як з боку гітлераўцаў, так і адпаведных айчынных спецслужбаў тых часоў. Так, былі і тыя, хто здрадзіў свайму народу, хто стаў карнікам, саўдзельнікам гітлераўскіх злачынстваў на акупіраванай тэрыторыі і апынуўся пасля вайны за мяжой. І яны павінны панесці суровае пакаранне, як таго патрабуе Канвенцыя ААН аб непрымяненні тэрмінаў даўнасці да ваенных злачынцаў і злачынстваў супраць чалавецтва.

Скарыстоўваючы нагоду, хачу праз вашу газету заклікаць замежных суродзічаў да супрацоўніцтва ў такой складанай і вельмі патрэбнай усім нам справе. І не толькі іх, але і ўсіх, хто можа дапамагчы матэрыяламі, дакументамі, рэдкімі публікацыямі.

...Няляшнім, думаю, будзе дадаць да заключнага "ў добры час, гісторыкі" і тое, што якім бы мнагазначным ці палярным ні выглядала стаўленне да эміграцыі шматпартыйнага, сацыяльнага і навуковага асяроддзя на Бацькаўшчыне, якой бы рознароднасцю ў поглядах ні вызначаліся шматлікія, дзесьці варожыя адзін аднаму пласты беларускага замежжа, трэцяга не дадзена: дыяспара — неад'емная частка нашай агульнанацыянальнай гісторыі, культуры, літаратуры. І яна падлягае і вывучэнню, і разуменню і, як вынік — адносін, якія б засноўваліся на існуючых міжнародных і айчынных юрыдычных нормах, гуманістычных каштоўнасцях, маралі прававой дзяржавы, якую мы збіраемся будаваць.

Апроч таго, распрацоўка гісторыі беларускай эміграцыі — уклад не толькі ў фундаментальную навуку, пошук ісціны, што таксама немалаважна. Гэты ўклад дапаможа правільна і пісьменна арыентавацца напярэдадні новай, можа і больш магутнай, чым калісьці, эміграцыйнай хвалі, якая пагражае абрынуцца на нас пасля скорага прыняцця закона аб уездзе-выездзе.

Магчыма, не ўсе чытачы пагодзяцца з ацэнкамі і пунктамі гледжання, што выкладзены ў гэтым матэрыяле. У вас ёсць канкрэтныя заўвагі? Тады давайце разам шукаць тую гістарычную справядлівасць. Чакаем вашых водгукаў, асабліва ад тых, каго непасрэдна тычыцца гэтая тэма, нашых замежных суайчыннікаў.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.



Зноў узнесліся над Магілёвам залачоныя купалы храма Трох Свяціцеляў, у якім апошнія гады размяшчаўся Дом культуры завода "Строммашына". Пасля перадачы будынка праваслаўнай царкве за справу ўзяліся і будаўнікі, і архітэктары-рэстаўратары. І нягледзячы на тое, што работы яшчэ не скончаны, храм, у якім ужо ідуць службы, уражвае сваіх прыхаджан веліччу і прыгажосцю ліній, годнасцю і духоўнасцю.
НА ЗДЫМКУ: завяршаецца рэстаўрацыя цэнтральнага храма Трох Свяціцеляў.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЗАСЛУЖЫЎ ПАШАНУ НАШЧАДКАЎ

Шлях нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларусаў на пачатку нашага стагоддзя быў нялёгкім. Гэтай барацьбе аддалі ўсе свае сілы лепшыя сыны Беларусі, змагаючыся з сіламі рэакцыі за лепшую будучыню свайго народа. Да такіх барацьбітоў належыць і Клаўдзій Дуж-Душэўскі — грамадска-палітычны дзеяч Беларусі і дужа шанаваны і заслужаны архітэктар Літвы.

Нягледзячы на ягоныя бясспрэчна вялікія заслугі, на працягу дзесяцігоддзяў яго імя было амаль цалкам забытае або згадвалася вельмі ўжо асцярожна. Сёння перажываем часы аднаўлення нашай знявечанай гістарычнай памяці, узнікае непазбежны працэс перагляду нашых поглядаў на ролю і азначэнне паасобных дзеячаў, што зрабілі важкі ўклад у дасягненні нашага грамадскага і культурнага жыцця. Дык сёння, калі мінае сто гадоў ад нараджэння Клаўдзія Душэўскага, нашчадкам трэба належна ўшанаваць імя гэтага самаахвярнага барацьбіта і нястомнага будаўніка.

Ён нарадзіўся 26 красавіка 1891 года ў мястэчку Глыбокім Віленскай губерні. У сям'і яшчэ з маленства далучыўся да традыцый барацьбы з царскім самадзяржаўем — яго прадзед Урублеўскі загінуў у паўстанні 1831 года, а дзед Высоцкі загінуў у паўстанні 1863 года.

Закончыў Клаўдзій рэальную гімназію ў Вільні. Яшчэ вучнем далучыўся да беларускай грамадскай працы, з 1909 года супрацоўнічаў з рэдакцыяй газеты "Наша ніва", пазнаёміўся з тагачасным беларускім асяроддзем у Вільні.

Далей вучыўся ў Пецярбургскім горным інстытуце. Пецярбург у той час быў своеасаблівым цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння. Яшчэ напярэдадні рэвалюцыі 1905 года менавіта там узніклі першыя беларускія грамадскія і падпольныя палітычныя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі студэнтаў і рабочых, выхадцаў з Беларусі. Там жа і зарадзілася па сутнасці першая беларуская рэвалю-

Сяргей КАРОЛЬ

# ВЕРШНІКІ НА КОНЯХ

### ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ ГЕДЫМІНАВА ДАСПЕХА

Што такое рэйды тэўтонскіх атрадаў, было добра вядома жыхарам зямель ВКЛ. У першыя ж некалькі гадоў пасля таго, як пахавальны дым узнёс Гедыміна на неба, "рэйды" зліліся ў адзін суцэльны націск. Фронт жалезнага нашэсця прасоўваўся ўсё глыбей, нібы зноў уваскрэсла даўняя мара пілігрымаў — падначаліць увесь гэты край магутнай сваёй дзяржаве. І гэта было заканамерна, бо ваяўнічаму Ордэну Вялікае княства ўяўлялася толькі вялізнаю прастораю "нічыёй" зямлі, якая вабіла багатымі гарадамі ды шчодрымі палямі. У Заходняй Еўропе, што не ведала зямлі без сеньёра, свабодныя абшары прынята было захопліваць або падпарадкоўваць.

Кожная вобласць у ВКЛ абаранялася паасобку, маючы свайго князя-палкаводца, таго ж, хто мог бы з'явіцца перад Захадам як Rex (правіцель) ці Dux Magnus (вялікі князь), зноў не было. І тым больш няўхільным станавіўся захоп, чым хутчэй у Ордэне ўпэўніліся, што Вялікае княства Літоўскае дзяржаваю, у іх разуменні, перастала з'яўляцца. Заваёўнікам здавалася, што перад імі зноў ляжала аморфная прастора без улады і абароны — ідэальны абсяг для экспансіі.

За заслонай дыму і ў бясконцым звоне зброі разгледзець нават сучаснае, не тое што будучыню, было тады надзвычай цяжка. Але менавіта ў гэтыя тры гады быў абраны шлях, што прывёў да вялікіх перамог і славы, якою карыстаецца ў гісторыі ВКЛ другая трэць XIV стагоддзя.

Хоць і не было таго, хто мог бы стаць адзіным прадстаўніком усёй дзяржавы, былі двое, што кіравалі паасобку найвялікшымі і найбольш палітычна важнымі яе часткамі. Гэта — Кейстут, вядомы як ваенны князь усяго заходняга памежжа, і Альгерд, якому адкрываўся Усход — мацнеючая Масква, а за ёю ўсё яшчэ вялікая Залатая Арда. Адказаць, ці ўсведамлялася братамі адзіная дзяржава як неабходнасць, задача складаная, аднак будучая неабсяжная Літва, легенда як для Еўропы, так і для Масковіі, з'явілася ў іх саюзе.

Калі восенню 1345 года Альгерд і яго вершнікі, якія за адну ноч прыляцелі з Віцебска, саскочылі з запененых коней, змова, дзякуючы Кейстуту, была ўжо здзейснена. Саюз братоў, за якім стаяла амаль не ўсё Вялікае княства, патрабаваў фармальнасці — захопу Віленскай зямлі і абвяшчэння вялікага князя. Гэты тытул набылі яны абодва, а Яўнут, як аднагалосна пацвярджаюць усе хронікі, пакінуў замак, не паспеўшы нават апрануцца. І той факт, што, як выказаўся беларускі гісторык П. Лойка, калі Еўропа захлыналася забойствамі і атручваннямі, Яўнут быў усяго толькі высланы ў Заслаўе, быў з'яваю зусім натуральнай, бо забіваць яго не мела ніякага сэнсу. У яго, як і ва ўсіх княжат, не меўшага ўласнага дамена і да таго ж страціўшага папулярнасць, не засталося шанцаў змагацца за ўладу.

Складвалася ўражанне, што на зямлю трох рэлігій вярнуліся Гедымінавы часы. Як і раней, кангламерат вымагаў абароны. Кейстут, які не раз вызначыўся на прускіх палях бітваў і здолеў уцячы з палону, прарубіўшы рыдлёўкай сцяну вежы, які ўсё жыццё не выпускаў меч з цвёрдай далоні, славіўся героем не толькі на Захадзе, але і на Усходзе. Яго постаць разам з іншымі ўпрыгожвае помнік тысячагоддзю Расіі ў Ноўгарадзе. Не менш славы і годнасці ў Альгерда, які паспяваў ваяваць на ўсіх напрамках, адчыняць цэрквы і капішчы, звяртацца з пасольствамі да буйнейшых краін... Хаця Альгерд і Кейстут і лічыліся вялікімі князямі, яны былі толькі буйнейшымі з суправіцеляў, адносіны між якімі захавалі былую патрыярхальнасць. Але ж са спантаннай неабходнасці такія адносіны ператварыліся ў традыцыю — ужо другое калена Гедымінавічаў пасля дасягнення імі адпаведнага ўзросту тым жа чынам размяркоўвалася вырашэннем старэйшых у родзе сваякоў, а на месцы Альгерда і Кейстута яшчэ з дзяцінства рыхтаваліся іх сыны — Ягайла і Вітаўт...

Аднак новыя каласы ўзыходзілі са старога насення, і гэтая рунь, якую хаця і цяжка яшчэ было заўважыць, усё хутчэй ішла ў рост.

Знешняя палітыка, што дагэтуль вызначалася простай абаронай, цяпер ускладнілася — пашырыўся яе геаграфічны арэал, і ў першую чаргу, да Усходу. Улады воіна-выканаўцы стала мала — спатрэбіўся яшчэ і палітык, і дыпламат. Спатрэбіліся хітрыя пасольствы — і першае з іх было адпраўлена ў Арду, узнікла неабходнасць думаць на некалькі крокаў наперад — і літоўская раць пагнала татараў на Сіняй Вадзе (1363), тры разы стаяла пад Масквой (1368, 1370, 1372).

У другім, а затым і ў трэцім пакаленні княжатаў Гедымінавічаў, колькасць якіх ужо перайшла за два дзесяткі, сталі ўсё часцей думаць аб спадчыннасці, што рабіла арганізм улады адчувальным да вірусу леннага права, а ў гэтым сэнсе княжаты, ужо розныя па сваяцкай блізкасці да Гедыміна, не маглі мець роўных правоў. З'яўляецца таксама і мясцовае рыцарства, якое мела патрэбу ў сеньёры. Словам, палітычнае і сацыяльнае жыццё ўзбагачалася і патрабавала для свайго новага зместу і новыя формы.

Гедымінавічы, адрываючыся ад свайго клана, усё болей зрастаюцца з абласцямі, што кармілі іх. З'яўляюцца новыя фігуры, такія, як Андрэй Альгердавіч Полацкі, праваслаўны князь, палітык, мэтаю якога была самастойнасць яго зямлі, а сродкам — леннае права, аб якім князь Андрэй меў выдатнае ўяўленне.

Улада засталася адзінай, але не знайшла сабе прававых норм і ўжо ў апошнія дзесяцігоддзі жыцця Альгерда існавала ў крэдыт — дзякуючы звычкам яе ўспрымання і аўтарытэту вялікага князя. Між тым, на паўночным і заходнім франтах настала зацішша, вайна адышла, і ад усяго таго, што раней яднала, застаўся адзін зношаны Гедымінаў даспех. Народнасці, што склалі ВКЛ, пачалі шукаць свае, больш глыбінныя дзяржаўныя структуры, і гэта была яшчэ адна спроба выйсці з кола сумеснага развіцця, што праследавала гэтую частку Усходняй Еўропы на працягу ўсёй яе гісторыі. Наспявала бойка, у якой этнасы і дзяржава сыходзіліся адзін на адзін...

Яшчэ нейкі час пасля смерці Альгерда ў 1377 годзе супраўленне існавала па інерцыі, але ўзарвалася ўжо канчаткова да году 1382. Вялікім князем Ягайлам быў падаўлены Полацк, што імкнуўся да незалежнасці, а ў Крэве задушылі Кейстута, вернага старым традыцыям. Сын яго Вітаўт знайшоў сабе прытулак у Тэўтонскім Ордэне, адкуль і працягнуў да княства свой адвостраны меч.

Сітуацыя патрабавала дзеянняў. Ягайла, які пацярпеў шэраг правалаў як дома, так і ў спробах дамовіцца з Масквой, звярнуўся да Польскай Кароны. Польская ж манархія мела шмат агульнага з той сістэмай улады, што дагэтуль існавала ў ВКЛ, і таму змена галаўнога ўбору выглядала натуральнай. Але калі Гедымінавічы з буйных яшчэ маглі б з гэтым згадзіцца, то для больш далёкіх, тых, хто не мог разлічваць на дапамогу караля — для сярэдніх і дробных родаў, — гэта азначала страту ўсяго і, у першую чаргу, — свабоды. Гэтым людзям патрэбны быў лідэр. Яны знайшлі яго ў выгнанніку Вітаўце. Пасля паходаў і страт, адчаю і перамог у 1392 годзе мясцовае панства ўзняло келіхі за Вялікага князя дзяржавы, што захавала незалежнасць.

Вітаўт быў першы правіцель змененага княства. Хаця яно і заставалася ў ранейшых межах і мала змяніла знешні абрыс, сутнасць была ўжо іншай. Велікакняжацкая ўлада па-ранейшаму была наднацыянальнай, але з ваеннай стала пераўтварацца ў палітычную, заснаваную на прававых нормах. Сэнс гэтых норм перадаваўся кароткім словам — "прывілей"! Гэта слова ўвайшло ва ўжытак у канцы XIV стагоддзя і стала тэрмінам, які існаваў столькі ж, колькі і сама дзяржава. Гэта слова азначала для жыхароў ВКЛ не менш, чым значыць для нас слова "канстытуцыя".

Прывілеі выдаваліся абласцям як дакументы, якія гарантавалі абмежаванне вярхоўнай улады на іх тэрыторыі, і тыя змены, што адбыліся дзякуючы гэтаму, былі каласальныя — яны, практычна, зацвердзілі нацыянальную дзяржаўнасць у шматнацыянальнай дзяржаве пад адзінаю ўладай. Князь дзяліўся ўладаю з сеймамі — прадстаўнічымі органамі абласнога значэння. І калі некалькі земляў адной народнасці (напрыклад, Полацкая і Віцебская) аб'ядноўвалі пастановы сваіх сеймаў, што адбывалася даволі часта, то гэта ўжо была палітыка нацыянальнага дзяржаўнага ўтварэння. Так пад адзіным гербам існавалі розныя этнасы, якія розніліся не толькі культурамі, але і тым, што мелі асобныя дзяржаўныя структуры, першасныя ў адносінах да цэнтральнай адміністрацыі.

І ўсё ж лёс гэтага ўсходнееўрапейскага "агульнага дому" быў трагічны. У XVIII стагоддзі яго падзеляць паміж сабою моцныя цэнтралізаваныя манархіі Еўропы.

Заканчэнне.
Пачатак у № 17.

КАРЫСНЫ І ПРЫБЫТКОВЫ ДЫЯЛОГ

## АМЕРЫКАНЦЫ АБЖЫВАЮЦЦА Ў МІНСКУ

Ужо тысячу персанальных камп'ютэраў вырабіла сумеснае савецка-амерыканскае прадпрыемства "Саміт сістэмс", што ўладкавалася ў Мінску. Прычым зроблена гэта, як гаворыцца, у лепшых амерыканскіх традыцыях: прадпрыемства было зарэгістравана ў апошнія дні 1990 года, а ўжо праз паўтара месяца выпусціла першую прадукцыю. Праўда, практычна ўсе камплектуючыя вузлы і дэталі сюды дастаўляюць з ЗША.

— Наша мэта — вырабляць у СССР электронныя вылічальныя машыны, якія спалучалі б у сабе навейшыя амерыканскія дасягненні ў галіне паўправаднікоў і лепшае савецкае праграмнае забеспячэнне, — сказаў генеральны дырэктар "Саміт сістэмс" пан Джэк Баерс.

Пад гэтую ідэю заснавальнікі сумеснага прадпрыемства падводзяць грунтоўную матэрыяльную базу. Так, каліфарнійская фірма "Чыпс энд тэкноладжз" прадастаўляе найноўшыя вузлы і дэталі для зборкі камп'ютэраў, аэрапорт "Мінск-2" выдзеліў вытворчыя памяшканні і офісы, сумеснае прадпрыемства "Дыялог" не толькі прадае прадукцыю па ўсяму Савецкаму Саюзу, але і забяспечвае яго сервіснае абслугоўванне. Дарэчы, тое, што прадпрыемства знаходзіцца практычна ў рамках аэрапорта, дазваляе істотна скараціць транспартныя выдаткі, а таксама забяспечвае максімальна хуткую пастаўку гатовай прадукцыі і запасных частак ў любы пункт СССР, а з адкрыццём у недалёкай будучыні прамых авіярэйсаў з Мінска ў ЗША і Заходнюю Еўропу — і па ўсім свеце.

Камп'ютэры, сабраныя ў Мінску, адпавядаюць усім сусветным стандартам. Ёсць у іх немалыя перавагі: уся электронная "начынка" змяшчаецца практычна на адной плаце. Гэта дазваляе мадэрнізаваць камп'ютэр.

Уладзімір БІБІКАЎ.

цыйная партыя.

Душэўскі адразу ж прыняў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларусаў, стаў адным з арганізатараў навукова-літаратурнага гуртка пры Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаў таксама ў рэдагаванні газет "Дзянніца" і "Светач", што выдаваліся там на беларускай мове. Ён належаў да таго ж прагрэсіўнага асяроддзя беларускай інтэлігенцыі, да якога належаў Янка Купала, Цётка (Алаіза Пашкевічанка), Браніслаў Тарашкевіч і іншыя, што вучыліся тады ў Пецярбурзе, а таксама вядомы апякун беларускай моладзі Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Дуж-Душэўскі быў адным з актыўных змагароў за ўзнаўленне беларускай дзяржаўнасці, за стварэнне незалежнай рэспублікі, быў удзельнікам шматлікіх з'ездаў і кангрэсаў. У пратаколе з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску ў сакавіку 1917 года чытаем, што "ад імя моладзі Петраградскіх вышэйшых школ шчыра вітаў з'езд Клаўдзій Душэўскі". Як сведчыць Літоўская Энцыклапедыя, ён быў старшынёй Беларускай рады Вільні і Гродна, прадстаўніком беларусаў Прыбалтыкі, адным з беларускіх міністраў.

У пачатку дваццатых гадоў канчаткова ўладкаваўся ў Каўнасе, стварыў там Беларускі цэнтр. Разам з Вацлавам Ластоўскім, мужам вядомай літоўскай пісьменніцы Лаздзіну Пяледы, рэдагаваў беларускія перыёдыкі, з іх найбольш вядомы часопіс "Крывіч". Быў шырока вядомым сярод беларускай грамадскасці Літвы, займаўся кнігавыдавецтвам, арганізаваў грамадскае жыццё сваіх суайчыннікаў, дапамагаў ім маральна і матэрыяльна. Сведчаннем яго дзейнасці з'яўляюцца шматлікія беларускія кніжкі, выдадзеныя ў Літве, у тым ліку слоўнікі і школьныя падручнікі. Многія з гэтых кніг траплялі і ў Заходнюю Беларусь, шырока там выкарыстоўваліся.

На працягу ўсяго міжваеннага перыяду Душэўскі жыў у Коўне, у сталіцы тагачаснай Літвы, і праявіў сябе як здольны архітэктар. Ён меў грунтоўную прафесійную падрыхтоўку, бо, скончыўшы раней Пецярбургскі горны інстытут, ён яшчэ закончыў будаўнічы факультэт Каўнаскага універсітэта. Працаваў як будаўнік у розных дзяржаўных установах і праектных арганізацыях. Быў аўтарам праектаў шматлікіх прамысловых аб'ектаў і будынкаў па ўсёй тэрыторыі Літвы (кінатэатр "Мэтрапалітэн" у Каўнасе, фабрыка беконаў у Панявежысе і шмат іншых).

У 1940 годзе з устанаўленнем Савецкай улады ў Літве Душэўскі ў новых варунках працягвае паспяхова працаваць у галіне сваёй прафесіі будаўніка. Але хваля арыштаў беларускіх дзеячаў на падставе неабгрунтаваных абвінавачванняў, характэрная для Беларусі ў трыццатых гадах, дакацілася і да Каўнаса. Яе ахвяраю стаў і Душэўскі. З пачаткам вайны ён апынуўся на свабодзе, але не надоўга. У гэты цяжкі акупацыйны час многія апынуліся ў бядзе, а Клаўдзій Сцяпанавіч меў такі характар, што нікому не адмаўляў у дапамозе, у тым ліку і сваім суайчыннікам, і сваім калегам-будаўнікам, сярод якіх былі асобы розных нацыянальнасцей. За сваю дабрачыннасць ён быў арыштаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі і накіраваны ў канцэнтрацыйны лагер у Правянішках. Вярнуўся дамоў толькі пасля вызвалення тэрыторыі Літвы ад акупантаў.

Аднак на гэтым нягоды яго жыцця не скончыліся. І пасля вызвалення ён быў ізноў рэпрэсіраваны. Вось парадокс, характэрны для таго нялёгкага часу. Урэшце толькі з наступленнем адлігі ён быў канчаткова вызвалены і рэабілітаваны.

Душэўскі ізноў актыўна ўключыўся ў сваю працу будаўніка. Працаваў дацэнтам на будаўнічым факультэце Каўнаскага універсітэта і галоўным інжынерам праекта ў інстытуце "Літбудпраект". Удзельнічаў у будове фабрыкі "Пяргале", Таўрагскай фабрыкі цэглы, дахоўкі і дрэнажных труб, станкабудаўнічага завода "Жальгірыс" у Новай Вільні. Памёр ён ва ўзросце 68 гадоў, будучы яшчэ цалкам працаздольным. Ягонае жыццё перадчасна спынілі шматлікія хваробы, набытыя ў час жыццёвых нягод.

Біяграфічны матэрыял пра Клаўдзія Дуж-Душэўскага амаль зусім не распрацаваны, мала вядомы нашаму сучасніку ды чакае свайго даследчыка — аб'ектыўнага, сумленнага, пазбаўленага дагматычных комплексаў. Душэўскі прадстаўляе сабой яшчэ адну дужа цікавую постаць з кагорты дзеячаў беларускага вызваленчага руху, вартую ўвагі нашых даследчыкаў. Цікавая яна тым, што хораша ўпісваецца ў культурную спадчыну і Беларусі, і суседняй братняй нам Літвы.

Лявон ЛУЦКЕВІЧ.

# КАМУ ПАТРЭБНА СЁННЯ КУЛЬТУРА, або ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ КАРЦІНКІ ЧАСОЎ ПЕРАБУДОВЫ



## ЧАМУ НЕ СПІЦЦА ДЫРЭКТАРУ

Дырэктару школы мастацтваў у Пружанах Якаву Малайчуку сапраўды апошнім часам кепска спалася. Здавалася б, работнік ён неблагі, вопытны — 23 гады вучыць мясцовую дзятву музыцы. Маюць свой хор, аркестр, якія так добра выступаюць на святах. Дзесяць гадоў назад адкрылі ў школе мемарыяльны музей Шырмы, свайго славутага земляка... А сёння праблемы бясконцыя не даюць працаваць плённа, стрымліваюць, перашкаджаюць. 500 вучняў — не жартачкі! А ў школе ўсяго 18 маленькіх пакойчыкаў. Бясконца трэба думаць, дзе ўсіх размясціць, як зручней пабудаваць расклад заняткаў, дзе арандаваць памяшканні. Музей, які існаваў на грамадскіх пачатках, зусім заняпаў, бо ў тым пакойчыку вымушаны былі праводзіць урокі музычнай літаратуры... Але ж была надзея, што ў бліжэйшай будучыні пераедуць яны ў прыгожы, сучасны будынак, спецыяльна ўзведзены для іх. Якаў Сямёнавіч часта бачыў у марах светлыя класы, прыстасаваныя для заняткаў музыкай, харэаграфіяй, выяўленчым мастацтвам... Мара гэта саграваля яго душу. Тым больш, што летась пачаліся і будаўнічыя работы. Але новы год не прынёс радасці. Міністэрства культуры рэспублікі з-за недахопу сродкаў фінансаванне будоўлі перапыніла. І цяпер гэта справа раёна. А якія ў раёне грошы... І ўсё застыла на мёртвай кропцы. Як тут было спаць!?

Якаў Сямёнавіч вырашыў дзейнічаць. Сабраўшы такія-сякія паперы, разам з загадчыкам аддзела культуры Пружанскага райвыканкома Юрыем Котавым яны рушылі ў сталіцу — шукаць справядлівасці.

— Прыехалі б вы да нас, — угаворваў мяне Юрый Котаў, — паглядзелі б, якія ў нас справы з культурай, якая змена падрастае. А ў будучым годзе, між іншым, мы святкуем 100-гадовы юбілей Рыгора Раманавіча Шырмы, чыё імя носіць школа мастацтваў. Будзем варушыць Саюз кампазітараў, каб дапамаглі нам правесці фестываль харавых калектываў на радзіме Шырмы. А можа нікому гэта не патрэбна?

Апошнія словы Юрыя Котава, сказаныя з адценнем трывогі, ніяк не ішлі з галавы. Музей, песні, мастацтва, юбілей Шырмы — што сёння гэтыя праблемы, падумалася, у параўнанні з іншымі. Дзяржава на парозе эканамічнага краху і хаосу, людзі ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі пасля павышэння цэн, пакутуюць жыхары забруджаных радыяцыяй вёсак, дасюль яшчэ не перасяленыя ў больш небяспечныя раёны. Ніякай упэўненасці ў будучыні няма. А гэтыя пружанскія аптымісты як з неба зваліліся.

Але ж паастыла. Нават сорамна стала, што не зразумела клопату Котава і Малайчука. Сапраўды, што мы без душы, без памяці ў гэтым свеце? Хіба народ? Хіба людзі? Насельніцтва. Калі і ёсць у нас надзея, то на дзяцей: што вырастуць яны людзьмі адукаванымі і культурнымі, стануць гаспадарамі сваёй зямлі, навядуць на ёй парадак і змогуць жыць цывілізавана.

## ПА ПРУЖАНШЧЫНЕ

Як і ў кожным раённым цэнтры, у Пружанах на плошчы ля будынка, дзе месціцца партыйнае і савецкае кіраўніцтва — помнік заснавальніку Савецкай дзяржавы Леніну. Аўтар кампазіцыі — таленавіты скульптар Л. Гумілеўскі. Не так даўно ўзведзены помнік і, дарэчы, цікавы твор мастацтва, добра глядзіцца з усіх кропак плошчы, з вокнаў гатэля. Сам жа гатэль (язык ледзь паварочваецца так назваць) — сумнае відовішча. Палова — ужо на рамонце, а палова — дзейнічае: мэбля тут зношаная, тэлевізары зламаныя, сцены пафарбаваны ў брудна-зялёны колер, усё роўна як у нейкім складскім памяшканні. Па гэткаму жытлу няцяжка ўявіць, у якім становішчы камунальная гаспадарка і казна горада. Тым большым дысанансам з гэтым жахлівым гатэлем выглядае манумент на плошчы. Ён — сам па сабе, а жыццё — само па сабе.

...Якаў Малайчук падагнаў да ганка гатэля машыну з брызентавым верхам — на такіх ездзяць вайскоўцы. Пазнаёміў з сімпатычным маладым чалавекам: "Іосіф Машкала, настаўнік гісторыі, краязнавец". І мы ўсе разам адправіліся ў вёсачку, дзе нарадзіўся і жыў Шырма.

Менш чым паўгадзіны — і ў Шакунах. Тут у белым дамку, на які ўказвае Якаў Сямёнавіч, і жыў славуты музыкант і дырыжор, збіральнік фальклору.

Спыняемся непадалёку. З суседніх хат, убачыўшы машыну, пасунуліся кабеты. Для іх гэта цэлая падзея — прыезд гасцей. Трохі саромеюцца сваёй беднай вопраткі і бруднага абутку — не рыхтаваліся ж спецыяльна, ад працы адарваліся. 65-гадовая Алена Гарэйка з задавальненнем расказвае пра сям'ю Шырмаў.

— Во тут, побач, яны жылі. Гэты сівы дамок бацька Рыгора Раманавіча пабудаваў, значыцца, недзе ў 22-м годзе на месцы згарэўшага. А зямлі ў іх мала было. Арандавалі. Праўдачка, бедныя былі. А ў хаце, што бліжэй да дарогі, наш Рыгор нарадзіўся. Памятаю, як прыязджаў ён ужо дарослым у вёску, такі добры, паважлівы быў з суседзямі.

Калі прыгадаць факты з біяграфіі Шырмы, то ён сапраўды ў 1922—1925 гадах часта бываў у бацькоў. Заходняя Беларусь была ў той час у складзе Польшчы. "Ніякіх беларусаў няма, — часта даводзілася чуць, — гэта выдумка мінскіх бальшавікоў." Калі Шырма адмовіўся запісацца палякам, яму забаранілі займацца настаўніцкай працай. У адказ Шырма арганізуе ў Пружанах хор, запісвае народныя песні, наладжвае канцэрты.

...Некалі Шакуны былі людныя. Песні гучалі. А сёння засталося 18 двароў, у якіх за гаспадароў — нямоглыя ўжо бабулі.

А прыгожае, прынамсі, месца, раздольнае. Адсюль, з Шакуноў, дарогай, па якой мы ехалі каля паўгадзіны, сын селяніна Рамана Шырмы пешкі хадзіў у Пружаны на заняткі.

Па дарозе заскочылі ў вёску Шані да былога настаўніка Уладзіміра Петрыка. Ён самадзейны мастак. Усе сцены ў хаце — у пейзажах, напісаных аўтарам з натуры: бярозавыя гаі, жытняе поле, вясковы шлях... Жонка Уладзіміра Петрыка, Яўгенія Васільеўна — сястра вядомага паэта Міколы Засіма. Цікава было б пагаварыць з ёю і з яе мужам пра тутэйшых народных майстроў, таленавітых самавукаў. Але час не дазваляе — уперадзе яшчэ Пружаны.

Наш гід па горадзе — Іосіф Машкала. Дарэчы, ён не карэнны жыхар Пружан. Родам з Гродзеншчыны, пасля заканчэння педвучылішча прыехаў сюды разам з жонкай працаваць настаўнікам. Тут асталяваўся і не збіраецца нікуды перабірацца. Паступіў вучыцца ў Гродзенскі універсітэт на гістарычны факультэт. Адной з яго курсавых работ стала напісанне гісторыка-эканамічнага нарыса аб Пружанах. У сваім даследаванні асноўную ўвагу звярнуў на дарэвалюцыйны перыяд, перыяд феадалізму, які мала вывучаны. Таму, натуральна, ён многае можа расказаць пра гісторыю гэтага краю, пра далёкія і нядаўнія падзеі.

— Вось, напрыклад, гляньце на мясцовы Дом культуры, — звяртае ўвагу Іосіф. — Гэта быў касцёл. Па задуме архітэктара ён павінен быў змяшчаць адначасова тысячу чалавек. Мясцовыя католікі будавалі яго за свае сродкі, але завяршыць будаўніцтва не давялося. Пасля падаўлення паўстання 1863 года царскія ўлады загадалі спыніць работы. У касцёле, кажуць людзі, захоўваліся рэчы для паўстанцаў, прадукты. Шмат у чым дапамагаў паўстанцам мясцовы памешчык Швяйкоўскі.

Да нашага часу захаваўся маёнтак апальнага памешчыка. Рамантычна, як казачны карабель, выглядае пабудова сярод вяснованага саду. Пасля рэвалюцыі не знайшлі нічога лепшага, як размясціць у будынку паліклініку, а потым дзіцячы сад. На шчасце, захаваўся яго праект і поўнае апісанне, што дапаможа ўзнавіць маёнтак.

Што ў Пружанах можа яшчэ прыцягнуць цікаўнае вока прыезджага? Ды не так ужо і многа: царква Аляксандра Неўскага, тая самая, у якой спяваў у хоры Шырма і дзе цяпер спявае малады гісторык Іосіф Машкала. Ну і гандлёвыя рады. "Белрэстаўрацыя" не шкадавала грошай на іх аднаўленне. Падлога выкладзена рознымі пародамі дрэў, дубовыя дзверы, арыгінальнае асвятленне... Тут, мабыць, размесцяцца бібліятэка і карцінная галерэя.

Але ўсё гэта будзе, хаця і ў недалёкай, але будучыні. А сёння свае культурныя, духоўныя запатрабаванні жыхары Пружан могуць задаволіць, акрамя царквы, хіба ў мясцовым Доме культуры на дыскатэцы альбо на канцэрце, дзеці ж — у школе мастацтваў імя Р. Шырмы. Але сітуацыя са школай нам ужо вядомая.

Дарэчы, блукаючы па Пружанах, пагутарылі з некалькімі падлеткамі.

— Вам цікава тут жыць?

— Скорей бы кончить школу и поехать учиться в Минск.

— А дзе любіце адпачываць?

— Некуда деться, кроме дискотеки.

— Якія ў вас захапленні?

— ?

— Якія славутыя людзі нарадзіліся на Пружаншчыне?

— Ширма, кажется.

— А хто ён такі і чым, на вашу думку, заслужыў павагу і прызнанне народа?

— Музыкант был классный.

— А вы што, беларускай мовы не ведаеце?

— Знаем на три балла. А русскую — на четыре.

Вось такія дыялогі атрымаліся. Узровень адказаў, думаецца, у нейкай ступені адпавядае ўзроўню культуры і інтэлекта субяседнікаў. Па словах першага сакратара Пружанскага райкома партыі Георгія Разанкі, бездухоўнасць становіцца нормай, а бескультурнасць нараджае адпаведныя адносіны да працы, да прыроды, адзін да аднаго.

"Крыўдна бывае, калі прыязджаюць да нас цудоўныя музыканты, выканаўцы класічнай музыкі, якія здабылі сусветную славу, а ў зале пару чалавек," — дзеліцца сваімі разважаннямі Разанка.

Сапраўды, мясцовая публіка ў большасці сваёй не надта шануе мастацтва, нацыянальную культуру. І калі б у Пружаны прывезлі выстаўку, скажам, Маціса а ці хор Віктара Роўды, наўрад ці ламіўся б у залу народ.

Такі вось парадокс атрымліваецца.

Хаця чаму тут здзіўляцца, калі доўгія-доўгія гады на культуру ў нас у краіне ўвогуле глядзелі скрозь пальцы. Узгадаваныя на пустых лозунгах і дэмагогіі, людзі бачылі так мала вакол сябе прыгажосці і сапраўднага мастацтва, што паступова страцілі і здольнасць успрымаць іх.

## А «СПАДЧЫНА» РОБІЦЬ СВАЮ СПРАВУ

Хаця і даволі праблематычна з культурай на Пружаншчыне, але не безнадзейна. Нешматлікая мясцовая інтэлігенцыя з пачаткам перабудовы неяк ускалыхнулася, заварушылася, шукаючы прымяненне сваім здольнасцям, імкнучыся быць карыснай сваёй зямлі.

• — Прыехаўшы ў Пружаны, — расказвае Іосіф Машкала, — я даведаўся, што тут стварылася гісторыка-краязнаўчае аб'яднанне "Спадчына". Тады гэта былі пенсіянеры, былыя настаўнікі, пазней далучылася моладзь. Край багаты на таленты. Тут нарадзіліся Засім, Забэйда-Суміцкі, Шырма, польскі пісьменнік Крашэўскі, доўгі час жыў польскі паэт Карпінскі. На Пружаншчыне пахаваны вядомы вучоны, прафесар Віленскага універсітэта Міхаіл Баброўскі. Я адразу далучыўся да мясцовых энтузіястаў. І наша грамадскае аб'яднанне пачало актыўна адшукваць сваю нацыянальную спадчыну, друкаваць матэрыялы ў мясцовай газеце, каб людзі больш даведаліся пра гісторыю свайго краю, зразумелі, хто яны такія, адкуль, якія людзі былі іх папярэднікамі на гэтай зямлі і які яны след пакінулі на ёй, чаму мова наша прыйшла ў заняпад і народ саромеецца размаўляць па-беларуску.

Трэба сказаць, што на ўдзельнікаў "Спадчыны" мясцовыя ўлады спачатку глядзелі вельмі падазрона. З райкома партыі на пасяджэнні абавязкова прыходзіў нехта з сакратароў. Мусіць, па-прынцыпу: як бы чаго не выйшла. Але захопліваць уладу ці рабіць пераварот, як паказаў час, ніхто з іх не збіраўся. Аказаліся члены аб'яднання не балбатунамі, а зрабілі многа карысных спраў. Напрыклад, з дапамогай старажылаў і дакладнага гістарычнага апісання адшукалі ў Пружанскай пушчы пахаванне 40 паўстанцаў К. Каліноўскага. Доўгі час там не было ніякага помніка, знака. Яны паднялі і адрэстаўрыравалі абеліск. Падрыхтавалі да рэстаўрацыі капліцу на Пружанскіх могілках. Яна была пабудавана на сродкі жыхароў горада ў памяць аб Палеалогу, прадвадзіцелю тутэйшага грамадства. Расчысцілі і прывялі ў людскі выгляд могілкі, на якіх спачываюць шматлікія пакаленні жыхароў Пружан.

А яшчэ збіраюцца паставіць на шашы Ружаны—Пружаны памятныя знакі, якія паведамілі б праезджаму і пра паўстанне Каліноўскага, і пра маёнтак Льва Сапегі, і пра іншыя слаўныя справы і імёны беларусаў.

* * *

Без расчаравання, наадварот, з надзеяй пакідаю я двухпавярховую драўляную школу мастацтваў, дзе, заціснутыя ў кут, размясціліся экспанаты музея Рыгора Раманавіча Шырмы. Пакуль што невырашальнай для раёна здаецца тут праблема новай школы. Увогуле праблем надзвычай многа. Але на ўсе сто працэнтаў упэўнена, што будуць яны вырашаны, таму што жывуць тут, у правінцыі, не толькі такія маладыя людзі, якія марацць пра лёгкі хлеб і вясёлы адпачынак, але і такія нераўнадушныя працаўнікі, як Якаў Малайчук, Юрый Котаў, Іосіф Машкала.

"Напішыце ў газеце, — папрасіў мяне дырэктар школы мастацтваў, — мы збіраем матэрыялы, якія тычацца жыцця і дзейнасці Шырмы. Можа ў каго засталіся яго асабістыя рэчы". З задавальненнем выконваю яго просьбу.

Таццяна АНТОНАВА.

## ЦІ ДАЛЁКА «БУЛЬВАРНАЕ» МАСТАЦТВА АД САПРАЎДНАГА?



# ГАЛЕРЭЯ... НА АСФАЛЬЦЕ

— Колькі каштуе гэта карціна?

— 85 рублёў.

— А патаргавацца з вамі можна?

— Не, тут было шмат работы, танней не прадам.

Жанчына паглядзела творы іншых мастакоў, зноў падышла.

— Усё ж вазьму гэты пейзаж на фоне сонца на захадзе. Фарбы — як у Афрыцы!

Расплацілася, адышла задаволеная, але вярнулася, папрасіла мастака напісаць прозвішча, каб не была карціна "безназоўнай".

— Ці часта вы робіце тут пакупкі? — цікаўлюся.

— Упершыню. Купіла для падарунка на гадавіну вяселля сына — у магазінах жа нічога няма.

Здаецца, тут, на Ленінскім праспекце, не спяшаюцца толькі яны, мастакі: павольна ходзяць ля сваіх работ, выстаўленых ля ўваходу ў мастацкі салон. Прадаюць. Своеасаблівая крама пад адкрытым небам. Бясплатная выстава.

Апошнім часам усё часцей збіраюцца тут купкі людзей — пакупнікоў і проста цікаўных; усё часцей прахожыя прыцішаюць крок, глядзяць, купляюць. Самадзейная галерэя на праспекце становіцца ўсё даўжэйшай, больш разнастайнай. Я размаўляла з многімі аўтарамі карцін. І гэтыя інтэрв'ю, мяркую, даюць магчымасць скласці своеасаблівы "калектыўны партрэт" мастака з праспекта.

— Вы часта бываеце тут?

— Штодня, акрамя нядзелі, з 9-ці раніцы і амаль да вечара.

— А калі працуеце?

— Вечарамі, начамі.

— Як да вас ставяцца ахоўнікі правапарадку?

— Сёння ўжо некалькі разоў падыходзіў міліцыянер, глядзеў дакументы. Мы плацім за патэнт 300 рублёў у год і за дазвол на продаж — яшчэ 400.

— Ала Пугачова спявае: "Жил-был художник один, домик имел и холсты". Як у вас наконт гэтага?

— Туга, — смяецца. — У мяне двухпакаёвая кватэра, 28 метраў. У адным пакоі жывём з сям'ёй, другі прыстасаваны пад майстэрню. Пра палатно наогул не гавару: вы ж бачыце, усё ў асноўным на кардоне выканана, з палатном — праблема. Пэндзлі, фарбы купляем у кааператараў, рамачкі з Масквы прывозім, кардон добры дастаём хто дзе можа.

— Ад чаго залежыць кошт карцін?

— Ад памеру і ад складанасці работы. Сёння самая танная — 50 рублёў.

— Ці даходнае гэта месца — Ленінскі праспект? Злыя языкі гавораць, тут вялізнымі грашамі пахне.

— У сярэднім — тысяча ў месяц, але, гаворачы мовай эканаміста, чысты даход дзесьці працэнтаў 50: карціны маюць вялікі сабекошт.

... Ну, а як ставяцца да тутэйшых мастакоў прахожыя — так сказаць, патэнцыяльныя пакупнікі? Па-рознаму. Адны ўспрымаюць іх, як выклік. Другія — як прыкмету дачынення да цывілізацыі і неблагія "аксесуары" для праспекта. Трэція ставяцца фанабэрыста: маўляў, выстаўляюцца (у сэнсе: самі сябе выстаўляюць, красуюцца).

Ёсць і такія, хто перакананы: нават тут можна знайсці што-небудзь цікавае, незвычайнае. Да ліку апошніх належу і я, хоць, праходзячы іншым разам праз галерэю на праспекце, гатова пагадзіцца з сябрамі: у многіх мастакоў адны і тыя ж тэмы, сюжэты, "перапевы". Вядома, факт гэты можна было б пракаменціраваць і як "ничто не ново под луной". І ўсё ж...

— Ці актуальнае для вас: попыт нараджае прапанову?

— Безумоўна.

— І што лепш "ідзе"?

— У асноўным бяруць пейзажы на фоне сонца на захадзе. Стараешся, вядома, не паўтарацца, але... — разводзіць рукамі.

Першае, што падумалася: з глузду можна з'ехаць — з дня ў дзень маляваць адно і тое ж, адно і тое ж... Можна толькі паспачуваць людзям, якіх прырода надзяліла пэўнымі здольнасцямі: гучыць як прысуд — "бульварнае мастацтва"...

Але, шчыра кажучы, я была крыху здзіўлена такой строгай, бескампраміснай ацэнкай, якую даюць сваім работам многія мастакі з праспекта. Няма ў іх амбіцый, недарэчнага "комплексу генія". Яны не крывяць душой: галерэя на асфальце для іх — той "кавалак хлеба", без якога не пражыць. Многія ж займаюцца і сур'ёзнымі, вялікімі работамі, амаль у кожнага шмат цікавых задум і для выстаў, і для сябе, для душы. Асцерагаюцца, каб канчаткова не засмактала балота, не стаў звычкаю так званы кітч, работа па прынцыпу "чаго пажадаеце?"

Пачынаючаму мастаку сёння цяжка станавіцца на ногі — і маральна, і матэрыяльна. Працаваць толькі "для вечнасці" не атрымліваецца: трэба і сям'ю карміць. Праспект некаторыя разглядаюць як магчымасць незадарма "набіваць руку".

...У некаторых, ведаю, крыху непаважлівыя адносіны да факта, што мастакі САМІ прадаюць творы: маўляў, зусім у гандляроў ператварыліся... Атрымліваецца: не сорамна займацца "культурнай спекуляцыяй" праз камісіёнку, а самому прадаваць свае работы нібыта дрэнна, амаральна. Гэта ідэальны варыянт: кесару — кесарава... Так, кожны павінен займацца перш за ўсё непасрэдна сваёй справай. Але ў нас — не атрымліваецца. Дык не наракаць на мастакоў трэба, а дапамагчы ім.

— Што вам больш падабаецца: маляваць альбо прадаваць?

— Вядома, маляваць. А гэта — па неабходнасці. Добра, каб была створана якая-небудзь фірма, што займалася б пасрэдніцкай дзейнасцю паміж намі і пакупнікамі, а за паслугі брала пэўны працэнт з продажу — было б вельмі зручна. Ці на крайні выпадак адвялі б нейкае спецыяльна прыстасаванае месца для выстаў-продажаў. Пагадзіцеся: снег, дождж, летні пыл — не лепшыя нашы саюзнікі. У Кіеве на Крашчаціку ў падземным пераходзе адвялі спецыяльныя вітрыны для мастакоў. Для нас усё гэта — ружовая мара...

— Якія ў вас адносіны паміж сабой?

— Добрыя, таварыскія. Мы і сябруем, і канкурыруем.

Слова гэта — канкурыруем — прызнаюся, парадавала: можа, канкурэнцыя з чыста камерцыйнай (намаляваць тое і так, каб лягчэй было прадаць) перарасце ў творчую?..

Аднак прыгадалася: пажылы мужчына доўга аглядаў карціны, а купіць нічога не рашыўся. Чаму?

— Ды ў мастацтве я не разбіраюся! — тлумачыў ён. — Раптам набуду якую карціну, а яна акажацца зусім ужо "дзяшоўкай"? Вось дажыў да сівых валасоў, дапрацаваўся да галоўнага спецыяліста, а тут — пас.

Сапраўды, у большасці з нас, нягледзячы на выгляд знаўцаў, мякка кажучы, вельмі прыблізнае ўяўленне аб мастацкай культуры. Не выхавана ў нас гэта. Што наракаць на дзіцячы садок, школу ці тэхнікум, калі ў большасці ВНУ эстэтычнае выхаванне пачынаецца і заканчваецца курсам эстэтыкі, які нярэдка выкладаецца так ўбога, што здольны выклікаць не цікавасць, а, наадварот, непрыязнасць да мастацтва.

Дык, можа, жаданне разабрацца ў сапраўдным і ўяўным — хоць бы вось тут, у галерэі на асфальце, — абудзіць у каго-небудзь цікавасць да жывапісу, яго гісторыі, заахвоціць разабрацца ў розных плынях, пацягне на "афіцыяльныя" выставы?

Тады, напэўна, у кожным канкрэтным выпадку кожны з нас сам знойдзе адказ на пытанне: ці далёка ўсё ж "бульварнае" мастацтва ад сапраўднага?

**Т. ПАДАЛЯК.**
"Звязда".

**НА ЗДЫМКУ:** галерэя на сталічным праспекце.

*МАЙСТРЫ*

# ЛЫЖКА ДА АБЕДУ

Прасторны хляўчук да самай столі закладзены асінавымі калодкамі і паленцамі. Запас дроў на зіму? Але ж для печы лепш бярозавыя... Аказваецца, гэта матэрыял для мастацкіх работ. У кожным паленцы "схавана" будучая лыжка, апалонік, чарпак ці начовачкі, а "шукаць" іх будзе патомны майстар-дрэваапрацоўшчык Іван Гладзікаў, які разам са сваёй вернай спадарожніцай і такой жа выдатнай майстрыхай Палінай Міронаўнай навыразаў гэтых рэчаў ужо не адну тысячу...

Здавалася б, у наш час ёсць многа самых розных, моцных, зручных вырабаў з металу, пластмасы, шкла. Але і драўляныя рэчы ў пашане. Талковы гаспадар не стане квасіць капусту ў бітоне, а пашукае драўляную бочачку, ды каб не з абы-якіх клёпак. Іншая справа, што знайсці яе не так лёгка. Не тое што цэлая вёска майстроў, а і проста добры бондар сёння — рэдкасць. Таму ведаюць такіх майстроў ва ўсім наваколлі. А ўжо калі пашанцуе на майстра, то ад заказаў адбою не будзе.

Зойдзеш часам на рынак, ды не ў якім-небудзь глухім мястэчку, а ў цэнтры сталіцы, і можаш убачыць недзе ў дальнім кутку такога майстра са сваімі вырабамі. Россып драўляных лыжак, апалонікаў, чарпакоў і нават... качалка, якой калісьці прасавалі бялізну! Няўжо нехта яшчэ карыстаецца такім "прасам"? Карыстаюцца! Праўда, толькі людзі сталага веку, якія ўпарта не прызнаюць сучасных электрапрылад ("хіба імі адпрасуеш як трэба"?). А што ўжо казаць пра драўляныя лыжкі! Узроставага цэнзу тут няма, добрая гаспадыня ведае пэўныя перавагі драўляных лыжак над металічнымі. Таму не панясе майстар дадому свой тавар: увесь разыдзецца.

Усе гэтыя разважанні — спроба вытлумачыць тую шырокую папулярнасць, якой карыстаюцца вырабы сям'і патомных майстроў-лыжкароў Гладзікавых з вёскі Фашчаўка Шклоўскага раёна.

...Іван Кузьміч выбірае са спірты асінавую калодку. Лёгкі ўзмах вострай сякеркі — калодка з сакавітым хрустам распадаецца на палавінкі, тыя — на паленцы, як сякуць звычайныя дровы для абпалу. Але тут патрабуецца асаблівая дакладнасць, паленца павінна мець пэўны памер. Такой дакладнасцю і вызначаецца кожны ўдар сякеркі. Адзін канец паленца закругляецца: тут будзе чарпачок. Некалькі насечак — выдзяляецца месца яго злучэння з чаранком, які збольшага абчэсваецца да пэўнай таўшчыні. Наском сякеркі выбіраецца выемка ў чарпачку, пакуль што яшчэ вельмі ўмоўна і прыблізна. На гэтым сякера сваю справу скончыла. Нават у такой досыць грубай і прыблізнай загатоўцы ўжо ўгадваецца лыжка.

...За стагоддзі свайго бытавання гэтая зручная і практычная рэч выпрацавала дасканалую, дакладную форму. У раскопках старажытных Турава, Пінска, Гродна знаходзяць рэшткі (і нават цэлыя вырабы) касцяных і драўляных лыжак практычна той жа формы, што і сёння: заавалены, злёгку выцягнуты чарпачок, тонкі, зграбна выгнуты чаранок, часам разьба ў выглядзе гравіраваных завіткоў, сеткі, пояскоў. Пэўна, прызначаліся гэтыя рэчы для багатых застолляў. У народным жа побыце лыжкі аздабляліся рэдка, хоць умела, дасканала выробленую рэч нельга не ацаніць за яе пластычныя якасці, гарманічныя формы. Некаторыя найбольш умелыя майстры ў падарунак ці для выставак не ленаваліся вырабляць адмысловыя лыжкі, з чаранком у выглядзе рыбкі ці з нарэзкамі на яго плоскім баку, а то і з колцам, кручком, птушынай галоўкай на канцы.

Падобныя вырабы можна бачыць і ў своеасаблівым хатнім "музеі" Гладзікавых, які размяшчаецца на прасторнай кухні, а ў зімовы час — адначасова і майстэрні. На цёплай

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## У ДАР БЕЛАРУСІ

Выстаўка унікальных карцін і сукенак вядомай французскай мастачкі Жульеты Фарну прайшла ў одной з залаў Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. "Цудоўна", — з захапленнем сказаў міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, які пазнаёміўся з творчасцю госці з Францыі. Мадам Фарну заявіла, што перадае калекцыю сваіх карцін, прадстаўленых на выстаўцы, у дар Беларусі. Чатыры карціны, што знаходзяцца ў Парыжы, будуць прывезены пазней.

Шчодры дар неперасўзыдзенага майстра жывапісу на шоўку выклікае глыбокую павагу, падкрэслівае суперажыванне мастачкі з людзьмі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Жульета хоча, каб з яе творчасцю пазнаёміліся не толькі мінчане, але і жыхары іншых гарадоў і раёнаў рэспублікі. Цяпер гэта стала рэальнасцю: карціны належаць Беларусі.

## ВЫСТАЎКА Ў ІЗРАІЛІ

З 28 красавіка па 4 мая ў Іерусаліме ў чарговы, пятнаццаты раз адбылася міжнародная кніжная выстаўка. На ёй былі прадстаўлены каля дванаццаці выдавецтваў Савецкага Саюза. У рабоце гэтага прадстаўнічага кніжнага форуму прыняла ўдзел і дэлегацыя Беларускай ССР.

На выстаўцы былі прадстаўлены звыш 100 кніг беларускіх выдавецтваў. Дэлегацыя ставіла перад сабой дзве задачы. Па-першае, наладзіць кантакты з гандлярамі кніг у Ізраілі, каб беларуская кніга, мінуючы аб'яднанне "Міжнародная кніга", адразу магла трапляць у гэтую краіну. А па-другое, прапанаваць выпуск кніг спецыяльна па заяўках ізраільскіх пакупнікоў — як на беларускай і рускай мовах, так і на замежных. І, зразумела, наладзіць кантакты з кнігавыдаўцамі і гандлярамі з іншых краін.

# ЛЫЖКА ДА АБЕДУ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

ляжанцы сохнуць напаўгатовыя лыжкі і начовачкі. На сцяне — дзесяткі гатовых вырабаў рознага фасону, многія з іх у свой час давялося бачыць на выстаўках. Пабывалі яны і ў Маскве, на заключнай выстаўцы першага Усесаюзнага фестывалю самадзейнай творчасці, трапілі ў многія выданні. І ёсць за што. Нават без разьбы лыжка вабіць вока дасканаласцю форм, не кажучы ўжо пра поўную адпаведнасць свайму прызначэнню. Але, як і ўсе сапраўдныя майстры, Гладзікавы не абмяжоўваюцца толькі утылітарнымі вырабамі. Чаранкі лыжак аздабляюцца прыгожым геаметрычным ці раслінным арнаментам, і рэч набывае яўна мастацкі характар. А то і форма іх мяняецца: чаранок становіцца шырокім, таніруецца ў карычневы колер, і на гэтым фоне выразна выступае далікатны разьбяны ўзор...

Тым часам майстар узбройваецца доўгім і, відаць, вельмі вострым нажом, бо тонкая, чыстая стружка здымаецца без ніякага бачнага напружання. Акрэсленыя формы набывае чарпачок, тонкім і зграбным становіцца чаранок. Несумненна, такая ўяўная лёгкасць і дакладнасць — вынік шматгадовай практыкі, калі рукі працуюць амаль аўтаматычна, а майстар тым часам яшчэ можа і гаворку падтрымліваць.



...Рамяство ў сям'і Гладзікавых, аказваецца, цягнецца па лініі ПаліныМіронаўны. Трохі дзіўна: разьба па дрэву — занятак быццам не для жанчыны. Так лічылі бацька, браты, майстры-аднавяскоўцы з суседняй Рудні — радзімы Паліны Міронаўны, дзе лыжкарствам здаўна займаліся амаль усе мужчыны. Але маленькая Паліна не захацела з гэтым згаджацца. Гледзячы, як спрытна ўпраўляецца з разцом бацька, падахвоцілася паспрабаваць і яна. Першыя лыжкі былі крывыя, няўклюдныя, пальцы ад парэзаў не паспявалі загойвацца. Але колькі было радасці, калі (здаецца, гадоў у трынаццаць) зарабіла сабе на суkенку: бацька на рынку прадаў яе лыжкі разам са сваімі! З таго часу і рэжа лыжкі. Замуж выйшла — мужа навучыла. Гэта няцяжка было, Іван Кузьміч аказаўся на ўсё здатны: ці мэблю змайстраваць, ці на трактар сесці. Усе разцы сам парабіў... Як майстар на ўсе рукі, ён не толькі лыжкарства асвоіў, але і начовачкі стаў рабіць, чарпакі, апалонікі, рознае іншае драўлянае начынне. Так і выступаюць на выстаўках сямейным дуэтам.



У хатняй "выставачнай зале" нельга не звярнуць увагу на своеасаблівую вітрыну, за шклом якой — тузін лыжак розных памераў, ад самай вялікай да самай маленькай.

— Гэта наш сямейны камплект, — усміхаюцца гаспадары. — Нас жа дванаццаць чалавек: дзесяць дзяцей ды мы двое. Кожнаму па лыжцы... Рэзаць усе ўмеюць, шкада, што ніхто сёння не займаецца гэтым, раз'ехаліся па свеце, іншыя прафесіі выбралі. Хіба вось на ўнукаў надзея.

...Завяршаецца работа над лыжкай паўкруглым разцом. Заціснуўшы ў левай руцэ чарпачок, свабоднымі пальцамі майстар накіроўвае лязо ў выемку. Разец з хрустам упіваецца ў дрэва, здаецца, зараз выскачыць — і па руцэ... Але інструмент слухаецца гаспадара, выемка паглыбляецца, набывае выразную, дакладную форму. Да належных абрысаў даводзіцца чаранок. Цяпер для поўнай чысціні — толькі прайсціся наждачнай паперай.

Лыжка гатова. Можна садзіцца за стол.

**Яўген САХУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Іван і Паліна ГЛАДЗІКАВЫ; работы майстроў.**

**Фота аўтара.**

## БАЛЕТ КАРТЭСА НА КУБЕ

У рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў адбылася сустрэча з вядомым беларускім кампазітарам Сяргеем Картэсам.

Падставай для размовы стала пастаноўка яго балета "Апошні інка" Нацыянальным балетам Кубы, якім кіруе знакамітая Аліcія Алонса.

Задума напісаць балет узнікла ў кампазітара ў 1985 годзе падчас правядзення Міжнароднага фестывалю музыкі ў Маскве. Калі партытура была гатова, ёй зацікавіліся на Кубе. Спектакль, пастаўлены харэографам Густавам Эрэра, аднаактовы, ён доўжыцца каля гадзіны.

Прэм'ерныя паказы балета "Апошні інка" адбыліся летась у кастрычніку — лістападзе ў Гаване ў час правядзення Міжнароднага фестывалю танца. На іх быў запрошаны і С. Картэс. У фестывалі ўдзельнічалі многія выдатныя трупы — такія, як трупа тэатра "Калон", трупа пад кіраўніцтвам вядомага танцоўшчыка Хуліа Бока і інш. Сапраўды каласальны поспех на фестывалі выпаў балету беларускага кампазітара. Зараз вядуцца перагаворы аб тым, каб ён быў пастаўлены Г. Эрэра на сцэне нашага тэатра оперы і балета.

## "ПАЛЕСКІ КАРАГОД"

26—30 чэрвеня ў Пінску будзе праведзены першы рэгіянальны фестываль народнага танца "Палескі карагод", мэта якога — захаванне, развіццё і прапаганда рэгіянальнай танцавальнай культуры, удасканаленне мастацкага ўзроўню рэпертуару і выканаўчага майстэрства калектываў аматарскай творчасці, эстэтычнага выхавання насельніцтва.

У фестывалі прымуць удзел этнаграфічныя і фальклорныя танцавальныя гурткі, аматарскія калектывы народнасцэнічнай харэаграфіі незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і ўзросту з Брэсцкай вобласці, па адным калектыве з Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай абласцей і Мінска, а таксама госці з Германіі, Польшчы, Італіі.

Пінскі фестываль прымае эстафету ў І Рэспубліканскага фестывалю беларускага танца, які прайшоў летась. У будучыні плануецца праводзіць такія фестывалі па рэгіёнах. У 1992 годзе, згодна распрацаванай праграме, такі фестываль пройдзе ў Мінску.







РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 626.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12